


# Рэгіянальная газета

12 ліпеня 2013 года
№ 28 (950)

Тэлетыдзень 26

http://rh.by

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета".




навіны рэгіёна

## Алкаголь не прададуць

**СМАРГОНЬ.** Рашэнне аб забароне прадаваць алкаголь пасля 21.00 і да 9.00 тычыцца Смаргоні і Смаргонскага раёна. З чым гэта звязанае, распавяла начальнік аддзела эканомікі Смаргонскага райвыканкама **Ірына Галдыцкая**: "Гэта адна з мер, накіраваная на папярэджанне злачынстваў, у тым ліку і падчас сямейна-бытавых канфліктаў. Рашэнне тычыцца толькі гандлёвых аб'ектаў горада і раёна. Прадпрыемствы грамадскага харчавання гэта не закранае".

## З'явіцца інспекцыя аховы жывёльнага і расліннага свету

**МАЛАДЗЕЧНА. ВІЛЕЙКА.** Цяпер Маладзечаншчыну абслугоўвае Вілейская міжраённая інспекцыя. Як паведаміў намеснік яе начальніка **Міхаіл Батураў**, у Маладзечанскай інспекцыі будзе наступны штат: начальнік, намеснік начальніка і інспектар. Пакуль вырашаецца пытанне і з будынкам, і з кадрамі. Магчыма, у маладзечанскую інспекцыю пяройдуць працаваць некаторыя работнікі з Вілейкі. Вілейская інспекцыя будзе працаваць у звычайным рэжыме.

## Можна лавіць вузкапалага рака

**МЯДЗЕЛ.** Лоўля вузкапалага рака дазваляецца з 16 ліпеня. Можна іх лавіць не больш за 30 асобін у суткі з выкарыстаннем трох ракаловак на аднаго рыбалова. Ракалоўкі павінны быць даўжынёй да 100 см з дыяметрам уваходнай адтуліны да 70 см і ячэйкай не менш за 22 мм. У вадаёмах раёна часта сустракаецца рак шыракапалы, які занесены ў Чырвоную кнігу Беларусі. Гэты від ракаў забаронены да лоўлі на працягу ўсяго года. На Мядзельшчыне найбольш часта рак шыракапалы сустракаецца на штучным вадаёме меліярацыйнага аб'екта "Пронькі", якія размешчаны насупраць НДЦ "Зубраня", і ў возеры Рудакова.

**Аддзел інфармацыі.**



# "Маладзечна": перамаглі пасля пяці паражэнняў



Фота Вольгі ЮРКЕВІЧ.

**Доўгачаканую перамогу святкавалі на дамашнім стадыёне ў Маладзечне. Абодва галы ў вароты саперніка забіў Юры Марціновіч. Хутка ў камандзе могуць з'явіцца і новыя футбалісты.** Працяг тэмы чытайце на 22-й старонцы.

ФЭСТ

# Будслаў сустрэў вернікаў

**МЯДЗЕЛ. У пятніцу, 5 ліпеня, на будслаўскі фэст прыехалі і прыйшлі 40 тысяч вернікаў.**

Мы ехалі з Вілейкі. Дарога была свабоднай зусім нядоўга: толькі ад'ехалі за горад, паказаліся цэлыя калоны машын. Абміналі адну, а спераду з'яўляліся яшчэ, яшчэ і яшчэ.

Ніколі не бачыла, каб за Вілейкай быў такі рух! Ад здзіўлення нават спытала: "Куды яны ўсе едуць?" Здавалася, што толькі мы накіроўваемся ў бок Будслава. Але адказ быў відавочны – на фэст.

Прыехалі рана. Нам пашанцавала, што машыну яшчэ можна было паставіць недалёка ад вёскі, на полі. Аўтамабілі выстройваліся ў некалькі радоў. Кіроўцы спрабавалі паставіць свае машыны як мага шчыльней, каб даць магчымасць даехаць сюды астатнім. Але як яны ні стараліся, месцаў хапіла не ўсім: машыны ставілі далей ад вёскі і, каб людзям не трэба было ісці вельмі доўга, пусцілі аўтобусы. Рух рэгулявала міліцыя.



Фота Алеся ВЫСОЦКАГА.

**На будслаўскім фэсце адбылося гашэнне паштовага блока "400-годдзе прыбыцця цудатворнага абраза Божай Маці ў Будслаў". У цырымоніі прынялі ўдзел папскі легат кардынал Жан-Луі Таран, Апостальскі Нунцый у Беларусі арцыбіскуп Клаўдыё Гуджэроцці, Мітрапаліт Тадэвуш Кандрусевіч (на фота) і старшыня Мінскага аблвыканкама Барыс Батура.**

### На споведзь у полі стаялі чэргі

У касцёл было не прабіцца. Многія ахвотныя стаялі на лесвіцы, каб паслухаць імшу. Шмат хто пакідаў грошы на патрэбы касцёла, падаваў паперы з імёнамі сваякоў, каб пасля за іх памаліліся. Усё гэта можна было зрабіць у маленькім памяшканні з задняга боку касцёла.

Здзівілі вялікія чэргі да споведзі, якая адбывалася ў полі. На крэслах сядзелі святары, а побач з імі на каленях людзі каяліся ў сваіх грахах.

Які ж будслаўскі фэст без асвечанай вады! На дзіва, вялікіх чэргаў адразу не было. Набраць яе можна было ў вялікай цыстэрне і ў калодзежы побач з царквой.

Многія вернікі, набіраючы ваду, разлівалі яе. А адзін малады чалавек на нашых вачах пачаў мыць у ёй рукі. Іншыя вернікі абурыліся яго паводзінамі і пачалі саромець маладзёна. Хутка той збег.

Цікавасць у прыезджых выклікалі палаткі вакол парку, дзе можна было купіць салодкіх пеўнікаў, магнiцікі з выявай Будслава, фігуркі маленькіх анёлаў, саламяныя капелюшы і многае іншае. З ахвотай людзі куплялі свечкі, каб прайсціся з імі ў час працэсіі. З цікавасцю разглядалі мазі ад розных хваробаў, шампуні, чаі, зробленыя на лекавых травах. Іх таксама можна было набыць.

### Адны слухалі службу, іншыя елі папкорн

У 23.40 пачалася працэсія вакол парку. Распачалі яе святары, якія неслі абраз Маці Божай Будслаўскай. У гэты час людзі з'ядналіся ў адно цэлае. Запальвалася адна свечка, потым другая, трэцяя. У хуткім часе на вуліцы стала бачна як днём.

Пакуль людзі прайшлі кола вакол парку, святары на сцэне пачалі службу.

Яе вялі на беларускай мове. Некаторыя падрыхтаваліся вельмі грунтоўна: прынеслі с сабой дываны, каб слухаць седзячы. Многія малітвы людзі гаварылі хорам. Што самае дзіўнае, іх ведалі нават маленькія дзеці, якіх было даволі шмат.

За паркам жа ішло іншае жыццё. Людзі куплялі шашлыкі, гулялі ў бяспройгрышныя латарэі, ласаваліся салодкай ватай і папкорнам.

**Галіна СІНІЦА.**

СВЯТЫ

# На Купалле ніхто не скакаў праз касцёр

**МАЛАДЗЕЧНА. Традыцыйна святкуюць Купалле ў ноч з 6 на 7 ліпеня. Але сёлета яго адсвяткавалі за гадзіну.**

Свята праходзіла на адным з астравоў у парку Перамогі.

Шмат хто з маладзечанцаў літаральна прыйшоў як у кіно. Людзі не маглі ні павадзіць карагод, ні ўвогуле прыняць удзел у мерапрыемстве. Ім пашчасціла толькі сачыць за тым, як святкуюць Купалле іншыя, недзе каля 30-і чалавек. Частка іх – гэта ўдзельнікі маладзечанскага эстэтычнага цэнтра.

Пудзіла, якое звычайна паляць ноччу, пачалі паліць а дзявятай гадзіне вечара. Яго настолькі аблілі гаручай вадкасцю, што яно згарэла за пяць хвілін. А карагод вакол яго вадзілі людзі з эстэтычнага цэнтра.

Тэатральная пастаноўка, якая ладзілася на востраве, праходзіла на беларускай мове. Спявалі народныя купальныя песні, прыгадвалі гісторыю свята з абавязковым яго героем – богам сонца Ярылам.

Назіраючы за святкаваннем разам з дзясяткам людзей, давялося чуць рознае. Многія дзеці, якіх на свята прывялі бацькі, не разумелі, што адбываецца. На бацькоў сыпаліся пытанні: "А навошта яны кідаюць вянкі ў ваду?", "Хто такі гэты мужчына ў жоўтым?", "Чаму вогнішча не паляць адразу?". Не ўсе бацькі маглі даць грунтоўны адказ. Нават калі дзеянні на востраве і тлумачыліся праз словы дзеючых асоб, іх было не чуваць для большасці прысутных. Калонкі стаялі ля амфітэатра, гук з іх далятаў далёка не да ўсіх.

Святкаванне Купалля ў цэнтры горада – добрая ідэя для тых, хто хоча проста прыйсці і паназіраць за дзеяннем. Тыя ж, хто прывык непасрэдна ўдзельнічаць у карагодах, песнях і скачках праз вогнішча, з большай ахвотай паедуць на Ушу. Свята ў двух месцах адначасова было б добрым кампрамісам для маладзечанцаў.

**Вольга ЮРКЕВІЧ, Аляксандра ПАРАХНЯ.**

НЯВЫДУМАНАЯ ГІСТОРЫЯ

# Іншапланецяне спусціліся

**Патэлефанавала мая цётка Зоя з Валожыншчыны і такім узбуджаным голасам расказала, што ёй давялося іншапланецян пабачыць.**

Жыве яна на хутары сярод лесу. Там, акрамя яе, летам пастаянна бывае дачнік Барыс.

Кажа, учора вечарам пазваніла дачка з Мінска і сказала, што прыедзе. Папрасіла зварыць супчыку.

– Я ж сёння раненька паставіла варыць бульбу і пайшла ў агарод, каб ушчыпнуць цыбулькі, – распавядае Зоя. – Прыходжу на агарод, рву цыбулю, падымаю галаву і... бачу над сажалкай нейкае невядомае стварэнне. Усё блiскучае, на галаве – навушнікі. З-за дрэў добра разгледзець не магу. Але там усё рухаецца, здаецца нейкі матор бачу. Якраз нядаўна глядзела, як па тэлевізары перадавалі пра незвычайныя з'явы, нават нумар тэлефона ўказваўся. Прасілі, калі хто ўбачыць нешта такое, патэлефанаваць ім.

І такі ж страх ахапіў мяне, проста аслупянела. Думаю, як жа прабрацца да Барыса, каб расказаць яму. Гляну на сажалку, а там усё зіхаць, рухаецца, пералiваецца. І штосьці вылязае.

Тут я трохі апрытомнела, неяк лесам-лесам прабралася да Барыса і крычу яму: "Барыс, ляці на Бронькаву сажалку, там іншапланецяне спусціліся". Барыс і сам захваляваўся, хуценька пабег, я за ім.

Прылятаем і пачынаем да слёз смяяцца. Вялікі надзіманы конь вісіць над вадой. Мы разумеем, што учора было Купалле. Мусіць, гэту жывёліну нам вецер прынёс. Толькі думаем, адкуль, ці то з Валожына, ці то з Мінска.

Пазмагаўшыся, удваіх мы змаглі-такі "асядлаць скакуна". І цяпер дома стаіць прыгожая надзіманая цацка роста́м з мяне.

**Марыя БЕРАСНЕВА.**



СВЯТА

# На свяце паэзіі на гандлёвых прылаўках не было кніг

**МАЛАДЗЕЧНА. 7 ліпеня ў вёсцы Вязынка адсвяткавалі 131 год з дня нараджэння Янкі Купалы.**

Раніцай адбылася ўрачыстая цырымонія ўскладання кветак да помніка Янку Купалу. У праграме мерапрыемства былі заяўленыя выступленні лаўрэата Дзяржаўнай прэміі імя Янкі Купалы **Міколы Мятліцкага**, старшыні гарадскога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі **Міхася Пазнякова**, дырэктара радыёстанцыі "Беларусь" **Навума Гальпяровіча**, фальклорнага калектыву "Гуда".

Пасля пачалося традыцыйнае свята паэзіі, песні і народных рамёстваў "З адною думкаю аб шчасці Беларусі...".

### На свяце паэзіі было шмат моладзі

**Міхась Казлоўскі**, бібліяфіл, падзяліўся з "Рэгіянальнай газетай" сваімі адчуваннямі ад свята.

– Я езджу ў Вязынку кожны год, бо адчуваю ў гэтым душэўную патрэбу. Прыехаўшы, здзівіўся. Было вельмі многа людзей, хоць гэта была не круглая дата. На радзіму Купалы прыехалі Віктар Шніп, Міхась Башлакоў, Анатоль Бутэвіч, Алесь Камоцкі і многія іншыя. Каля помніка Купалу яны чыталі неўмiручыя купалаўскія радкі.

Было шмат моладзі, прыязджалі нават цэлымі сем'ямі. Некаторыя сыходзілі з электрычкі і адразу ішлі да помніка, каб пакланіцца зямлі, па якой хадзіў Купала.

Вялікая колькасць людзей знаходзілася каля сцэны, на якой выступілі народны ансамбль музыкі і танца "Вязынка", народны калектыў аўтарскай песні "Імпэт", аматарскія фальклорныя калектывы Маладзечанскага раёна. Адчувалася, што людзі не абыякавыя да гэтага мерапрыемства. На ім усе сталі аднадумцамі.

Мяне здзівіла, што сярод мноства гандлёвых радоў, не было кніг. Гэта тое ж самае, што ў аркестры цымбалістаў не было б саміх цымбалаў. Наш пісьменнік усё жыццё імкнуўся данесці людзям духоўнае, чалавечнае, таму пісаў свае творы, выдаваў кнігі, адчуваў у гэтым патрэбу душы. Для арганізатараў, напэўна, гэта было не істотным.

Затое свята парадавала сваёй арганізаванасцю.

**Галіна СІНІЦА.**

БІЗНЕС

# Дробнае прадпрымальніцтва

## Адсталы пласт або магутны рэзерв эканомікі?

**На Захадзе менавіта малы і сярэдні бізнес шмат у чым рухаюць эканоміку. Як разняволіць іх патэнцыял у Беларусі?**

Чыноўнікі і некаторыя блізкія да ўладаў аналітыкі ўспрынялі нядаўні бунт малога бізнесу супраць тэхрэгламенту Мытнага саюза як нечаканне прымаць справядлівыя патрабаванні і ўпісвацца ў цывілізаваныя рамкі. Аднак малыя прадпрыемствы адыгрываюць важную ролю ва ўсіх развітых эканоміках.

У краінах Заходняй Еўропы, ЗША і Японіі гэта, у асноўным, прадпрыемствы, дзе працуе не больш за 20 чалавек. Малы бізнес забяспечвае 2/3 прыросту новых працоўных месцаў, што дазволіла значна скараціць беспрацоўе ў гэтых краінах. Яго доля ў ВУП для краін Еўрасаюза складае каля 60%, для эканомікі ЗША – каля 50%.

У Беларусі ўклад малога і сярэдняга бізнесу ў ВУП істотна ніжэйшы – 22%. У краінах-партнёрах па Мытным саюзе – 20 і 19% у эканоміку Расіі і Казахстана адпаведна. Такія дадзеныя на VI Астанінскім эканамічным форуме прывёў дырэктар Дэпартамента развіцця прадпрымальніцкай дзейнасці Еўразійскай эканамічнай камісіі **Рустам Акбердзін**. Пры гэтым эксперт падкрэсліў, што вага малога і сярэдняга бізнесу ва ўсіх краінах Мытнага саюза не адпавядае патрэбам эканомік.

### Дзяржава павінна перастаць даставаць бізнес праверкамі

Доля індывідуальных прадпрымальнікаў сярод катэгорый плацельшчыкаў у Беларусі пакуль нязначная, хоць аб'ём падаткаў і збораў, якія яны ўносяць у казну, пастаянна расце. Аднак гэта не мяжа, асабліва, калі дзяржава будзе сапраўды заклапочана стымуляваннем росту малога і сярэдняга бізнесу.

У Беларусі на працягу шэрагу гадоў дзейнічае Праграма дзяржаўнай падтрымкі прадпрымальніцтва. Некаторыя эксперты мяркуюць, што ў апошнія гады ўмовы для вядзення бізнесу ў краіне прыкметна палепшыліся. Аднак да паказчыкаў развітых краін айчыннага бізнесу яшчэ далёка. Якія рэформы могуць раскрыць патэнцыял малога і сярэдняга прадпрымальніцтва ў нашай краіне?

Старшыня Асацыяцыі малога і сярэдняга бізнесу **Сяргей Балыкін** упэўнены, што рэформа патрэбна толькі адна – не перашкаджаць ініцыятыве, пакінуць прадпрымальнікаў у спакоі. Эксперт адзначае вялікую колькасць адміністрацыйных бар'ераў, якія перашкаджаюць бізнесу развівацца:

– Важна не дэклараваць лібералізацыю, а проста не замінаць бізнесу працаваць. Трэба перастаць даставаць праверкамі, справаздачамі.

Сур'ёзным ударам па малым бізнесе Сяргей Балыкін лічыць указ аб барацьбе з ілжэпрадпрымальніцкімі структурамі, паколькі ўключэнне ў рэестр досыць адвольнае і непразрыстае, а правяраць на прадмет прысутнасці ў ім зараз прыходзіцца усіх контрагентаў.

– Для маленькай фірмы з невялікім штатам правяраць кожнага даволі клапатна. І не дай Бог прапусціць. Хоць бы зрабілі базу дадзеных, якой лёгка карыстацца, – прапануе Сяргей Балыкін.

### Бізнесу трэба даваць нішы на рынку

Каб малы бізнес даў вялікія вынікі, неабходна раскрыць патэнцыял народа, лічыць сустаршыня Рэспубліканскай канфедэрацыі прадпрымальніцтва **Віктар Маргелаў**. На думку лідара прадпрымальнікаў, умовы вядзення бізнесу ў Беларусі паляпшаюцца, аднак пакуль далёкія ад ідэальных.

Неабходны крок, які дапамог бы развіццю прадпрымальніцтва – магчымасць бізнесу ўдзельнічаць у фарміраванні "правілаў гульні".

– Трэба перагледзець баланс міжгаліновых інтарэсаў, – прапануе Віктар Маргелаў. – У Беларусі вялікі перакос у бок банкаўскага сектара, які зарабляе значна больш за малы бізнес, асабліва той яго часткі, якая займаецца вытворчасцю.

Сярод іншых прапаноў прадпрымальнікаў – неабходнасць захавання балансу працоўных рэсурсаў, паколькі сёння ў краіне няма каму развіваць малы бізнес. Бізнесу трэба даваць нішы на рынку, долю ў дзяржаўных закупках, як гэта робіцца ў развітых краінах. Тады б доля малога бізнесу ў краіне гарантавана расла.




Малы і сярэдні бізнес — які ўклад у эканоміку?

– Патрэбна рэформа інфраструктуры і перамеркаванне рэсурсаў, – мяркуе эканаміст Беларускага эканамічнага даследча-адукацыйнага цэнтра (BEROC) **Дзмітры Крук**. – Напрыклад, сёння дзяржпрадпрыемствы маюць прыярытэт у доступе да фінансавых рэсурсаў, што не дазваляе малому і сярэдняму бізнесу канкураваць з імі на роўных умовах.

### Еўрапейскі досвед з нацыянальнымі асаблівасцямі

Уклад малога і сярэдняга бізнесу ў эканоміку можа быць значна больш істотным пры ўкараненні шэрагу інструментаў для падтрымкі і развіцця прадпрымальніцтва.

– У Еўрасаюзе ёсць вялікі досвед, які нам не зашкодзіла б прымяніць у сябе для развіцця прадпрымальніцтва, – адзначае Віктар Маргелаў. – І вельмі добра, калі атрымаецца зрабіць гэта ў рамках "Еўрапейскага дыялогу аб мадэрнізацыі з Беларуссю" ці іншых праграм. Іншая справа, што сістэму трэба будаваць з улікам нацыянальных, эканамічных, культурных асаблівасцяў.

На думку Дзмітрыя Крука, "Дыялог аб мадэрнізацыі" прадугледжвае больш шырокі спектр пытанняў і абмеркаванне рэформаў для больш шырокага пераліку эканамічных суб'ектаў.

– Аднак як адзін з кірункаў тэма рэформаў у малым і сярэднім бізнесе была б цалкам дарэчная, – мяркуе эксперт.

Сяргей Балыкін лічыць больш актуальным досвед ЗША і Канады, паколькі эканомікі гэтых краін нашмат вальнейшыя. У той жа час, адзначае эксперт, досведам шэрагу еўрапейскіх краін варта было б скарыстацца.

– Цікавы быў бы досвед стварэння некамерцыйных бізнес-інкубатараў, якія дапамагалі б пачаткоўцам прадпрымальнікам браць па нізкай цане або наогул бясплатна памяшканні ў арэнду, – прапаноўвае Сяргей Балыкін.

Высокага ўзроўню развіцця малы бізнес у краінах з развітой эканомікай дасягнуў у тым ліку дзякуючы дапамозе дзяржавы, якая актыўна інвестуе ў развіццё малога і сярэдняга прадпрымальніцтва.

**Пётр СТАРОБІНЕЦ,**
**"Заўтра тваёй краіны".**

## Праблема прадпрымальнікаў застаецца

**МАЛАДЗЕЧНА. Рашэнне пытання аб сертыфікацыі тавару перанеслі на год.**

Першага ліпеня павінны былі ўступіць у сілу патрабаванні, прадугледжаныя тэхрэгламентам Мытнага саюза. Дробных прадпрымальнікаў абавязвалі, каб на тавары лёгкай прамысловасці былі сертыфікаты якасці.

Цяпер прадпрымальнікам дробнага гандлю дазволілі прадаваць не сертыфікаваны тавар. Але прадпрымальнікі павінны пазначыць – ТАВАР НЕ СЕРТЫФІКАВАНЫ.

**Вольга ЮРКЕВІЧ.**

| Курсы валют НБ РБ | 4.07 | 11.07 |
|---|---|---|
| | руб. | руб. |
| **Долар ЗША** | 8 810,00 | **8 880,00** |
| **Еўра** | 11 510,00 | **11 370,00** |
| **Злоты** | 2 652,70 | **2 635,80** |
| **Літ** | 3 325,72 | **3 297,32** |
| **Расійскі рубель** | 267,50 | **270,00** |
| **Грыўня** | 1 080,98 | **1 088,90** |
| **Курсы ў "Банку БелВЭБ" у Маладзечне** | | |
| **Долар ЗША** | 8825/8900 | **8890/8990** |
| **Еўра** | 11460/11600 | **11420 /11600** |

Цэны на рынку (Маладзечна)

| ПРАДУКТЫ | 2.07 | 10.07 |
|---|---|---|
| | Цана руб. | |
| **Кілбаса с/вэндж.,** 1 кг | 115800 | **188100** |
| **Сасіскі,** 1 кг | 45900 | **45050** |
| **Свініна, лапатка,** 1кг | 48000 | **4850** |
| **Ялавічына, кумпяк,** 1 кг | 83000 | **83000** |
| **Кураня-бройлер,** 1 кг | 25900 | **26200** |
| **Шашлык, паўфабрыкат,** 1 кг | 56000 | **57300** |
| **Мінтай свежамарожаны,** 1 кг | 24000 | **23500** |
| **Селядзец,** 1 кг | 28800 | **28800** |
| **Скумбрыя х/в,** 1 кг | 85000 | **85000** |
| **Рыс,** 0,9 кг | 10300 | **9900** |
| **Грэчка,** 0,9 кг | 9900 | **9800** |
| **Яйкі курыныя,** 1 дзес. | 8900 | **8900** |
| **Алей** | 15300 | **15300** |
| **Маянэз,** 200 г | 4800 | **4850** |
| **Соус "Мінскі",** 0,5 л | 7800 | **7800** |
| **Кава "Nescafe",** 100 г | 30000 | **30000** |
| **Шпроты,** бляшанка 160 г | 9600 | **9600** |
| **Цыбуля рэпчатая,** 1 кг | 8900 | **10000** |
| **Капуста,** 1 кг | 6000 | **5500** |
| **Морква,** 1 кг | 14500 | **15000** |
| **Буракі,** 1 кг | 5500 | **5000** |
| **Лімоны,** 1 кг | 23000 | **21000** |
| **Апельсіны,** 1 кг | 13000 | **16000** |
| **Мандарыны,** 1 кг | 25000 | **28000** |
| **Памідоры,** 1 кг | 13000 | **13000** |
| **Чарэшня, 1 кг** | 39000 | **35000** |
| **Агуркі,** 1 кг | 7500 | **5000** |
| **Перац,** 1 кг | 19000 | **14000** |
| **Вінаград,** 1 кг | 29000 | **23000** |
| **Бананы,** 1 кг | 11500 | **11500** |
| **Яблыкі,** 1 кг | 11000 | **10000** |
| **Грушы,** 1 кг | 22000 | **20000** |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | |
| **Малако,** 1,5 л | 12000 | **12000** |
| **Масла,** 1 кг | 60000 | **60000** |
| **Тварог,** 1 кг | 35000 | **35000** |
| **Яйкі курыныя,** 1 дзес. | 15000 | **15000** |
| **Сала,** 1 кг | 50000 | **50000** |
| **Бульба маладая,** 1 кг | 10000 | **6000** |
| **Мёд,** 1 кг | 50000 | **50000** |

ПРАКУРАТУРА, СУД

# Пабіў міліцыянера, але забыўся пра гэта

**МАЛАДЗЕЧНА. Прыраўнаваў сяброўку да міліцыянера, разззлаваўся на яе, вырваў ручку з дзвярэй, а потым хацеў збегчы ды нарваўся на міліцыю.**



Фота secretswoman.ru

Маладзён прыраўнаваў сяброўку да міліцыянераў.

Сёлета 13 студзеня ў інтэрнаце па вуліцы Суміцкага п'яны маладзён зайшоў да сваёй сяброўкі, якая тут працуе і ў гэты час знаходзілася на працоўным месцы, ды пасварыўся з ёй.

Аляксандр стаў раўнаваць сяброўку да работнікаў міліцыі, якія знаходзіліся ў дзяжурным пакоі. Яна спрабавала адправіць яго дадому, але дарэмна.

Калі міліцыянеры пайшлі, ён пачаў грукаць ёй у дзверы і вырваў дзвярную ручку. Тая выклікала міліцыю. Толькі тады маладзён спужаўся яе пагрозаў, імкнуўся збегчы з месца злачынства.

Калі выйшаў, заўважыў, што міліцыянеры стаяць на ганку. Вырашыўшы, што яго зараз затрымаюць, Аляксандр накінуўся на аднаго з іх і пераламаў яму нос.

У судзе малады чалавек цалкам прызнаў сваю віну, паказаў, як наносіў удары. Але памятае ён толькі пра адзін удар, хаця дапускае, што мог нанесці і некалькі.

Суд кваліфікаваў дзеянні Аляксандра як супраціўленне работніку міліцыі пры выкананні ім абавязкаў па ахове грамадскага парадку з прымяненнем гвалту.

Цяпер ён павінен выплаціць 300 тысяч рублёў за маральную і матэрыяльную шкоду.

Па частцы 2 артыкула 363 Крымінальнага кодэкса Аляксандру прызначанае пакаранне ў выглядзе абмежавання свабоды без накіравання ў выпраўленчую ўстанову адкрытага тыпу тэрмінам на два гады.

**Іван НЕЎМЯРЖЫЦКІ,**
**старшы памочнік пракурора Маладзечанскага раёна.**

## Вырошчваў каноплі ў шафе сваёй бабулі

**ВІЛЕЙКА. Сёлета 11 красавіка ў Вілейцы адбыўся суд па справе Максіма Б., які абвінавачваўся ў здабыванні і продажы наркотыкаў.**

У хаце бабулі абвінавачанага знайшлі шэсць слоікаў і восем папяровых скруткаў з марыхуанай.

Знайшлі 323 грамы рэчыва, чатыры курыльныя трубкі, электронныя вагі, унутры якіх было 0, 0014 грама марыхуаны, а таксама насенне канапель. У шафе было ўбудаванае асвятленне, там стаяў гаршчок з зямлёй, у якім расла псіхатропная расліна.

Максім Б. у час дачы паказанняў быў у стане наркатычнага ап'янення, што пацвярджаецца паказаннямі сведкаў і медыцынскім аглядам.

Суд асудзіў маладзёна і прызначыў пакаранне: восем месяцаў зняволення ў выпраўленчай калоніі ўзмоцненага рэжыму з канфіскацыяй маёмасці.

Аднак жыхар Вілейкі вырашыў падаць скаргу ў Мінскі абласны суд.

Сёлета 31 мая судовая калегія разглядзела на адкрытым пасяджэнні справу па пратэсце пракурора Вілейскага раёна на скаргу Максіма Б. Суд улічыў усе моманты справы і змяніў прыгавор. Паводле заключэння эксбпертаў-псіхіятраў, Максім Б. мае патрэбу ў лячэнні ад наркатычнай залежнасці. У дадатак да пазбаўлення свабоды і канфіскацыі маёмасці, суд прызначыў дадатковае пакаранне: прымусовае лячэнне ад наркаманіі.

**Віктар ГАТОЎКА,**
**памочнік пракурора Вілейскага раёна.**

ДАІ ПАВЕДАМЛЯЕ

## Як стаць матацыклістам

**МАЛАДЗЕЧНА. Вясной і летам рэзка ўзрастае колькасць дарожна-транспартных здарэнняў з удзелам матацыклістаў. Як паказвае практыка, большасць кіроўцаў не маюць страхоўкі і садзяцца за руль нецвярозымі.**

ДАІ нагадвае, што вадзіцельскае пасведчанне катэгорыі "А" выдаецца з 18 гадоў, "А1" і "АМ" – з 16 гадоў.

Для таго, каб атрымаць вадзіцельскае пасведчанне матацыкліста без праходжання падрыхтоўкі (перападрыхтоўкі), трэба ўжо мець іншае вадзіцельскае пасведчанне. У гэтым выпадку здаецца тэарэтычны і практычны экзамены.

Калі вы жадаеце атрымаць пасведчанне на кіраванне мапедам, здаяце толькі тэарэтычны экзамен.

Ахвотныя вадзіць матацыкл падкатэгорыі "А1" павінны здаваць два экзамены.

Асобы, якім ужо ёсць 16 год, павінны звярнуцца ў ДАІ з заявай на імя начальніка, мець пры сабе пашпарт з адзнакай аб рэгістрацыі і медыцынскую даведку.

### Экзамены ў ДАІ

Тэарэтычны экзамен уключае тэст з 10 пытанняў. Выконваць яго можна 15 хвілін. Адзнака "здаў" ставіцца, калі памылак няма. У адваротным выпадку – "не здаў".

Пасля назначэцца практычны экзамен: рух па прамой з пераключэннем перадач, кіраванне транспартам на мінімальнай хуткасці па "калейнай дошцы", выкананне паваротаў і разваротаў.

Ставіцца адзнака "не здаў", калі экзаменуемы не выканаў элементы "калейная дошка" ці "васьмёрка", а таксама, калі заглушыў рухавік у руху з месца ці не змог уключыць перадачу.

Пры выдатнай здачы тэарэтычнага і практычнага курсаў за пасведчаннем можна звяртацца па адрасе: **г. Маладзечна, вул. Т. Дудко, д. 1. Тэл. 8-(017-67)-4-53-42.**

### Як зарэгістраваць мотатранспарт?

Рэгістрацыя праходзіць па месцы жыхарства. Калі ўласнікамі транспарту з'яўляюцца падлеткі, якім не споўнілася 14 год, рэгістрацыю яго бацькі ці апекуны.

**Для рэгістрацыі неабходна:**

1. Напісаць заяву.
2. Даць матацыкл для агляду нумара.
3. Мець пры сабе пашпарт ці іншы дакумент з адзнакай аб рэгістрацыі, які можа пацвердзіць вашу асобу.
4. Дакумент завода-вытворцы, які пацвярджае вытворчасць матацыкла.
5. Пасведчанне аб рэгістрацыі транспартнага сродку.
6. Страхоўку.
7. Дакументы з аплатай.

Рэгістрацыя транспартных сродкаў адбываецца па адрасе: **г. Маладзечна, вул. Т. Дудко, д. 1. Тэл. 8-(017-67)-4-53-41, 8-(017-67)-4-53-49.**

**Паводле Дзяржаўтаінспекцыі Маладзечанскага РАУС.**

СЛУЖБА 101

## Машына сама завялася, пачала рухацца і гарэць

**ВАЛОЖЫН. Здарэнне адбылося 8 ліпеня ў Валожыне на вуліцы Гарэцкага каля 17.00.**

Дачка гаспадара "Фольксвагена-Пасата" прыехала на гэтым аўтамабілі дамоў і прыпаркавалася ў двары. Не прайшло і некалькі хвілін, як яна пайшла, а машына пачала рухацца на агароджу.

Суседка, якая якраз была ў двары, спужалася, што дзяўчына ўнутры, падхапілася ды пабегла да аўтамабіля. Адтуль знутры ішоў дым і ўжо быў бачны агонь.

За гэты час збегліся суседзі, прыбег і гаспадар аўто. Агульнымі сіламі яны спрабавалі самі затушыць машыну, адцягнулі яе ад двара і чакалі пажарных.

Калі тыя прыехалі, "Фольксваген" 1996 года гараў увесь.

Папярэдняя прычына загарання – непаладкі ў сістэме запальвання аўтамабіля.

Пра здарэнне расказаў старшы інспектар дзяржпажнагляду Валожынскага раённага аддзела па надзвычайных сітуацыях **Алег Калітнік**.

**Настасся РОЎДА.**

ЗДАРЭННІ

## Раней судзімы за забойства за жарт зарэзаў хлопца

**ВІЛЕЙКА. 9 ліпеня каля паловы трэцяй ночы ў райаддзел унутраных спраў паступіла паведамленне ад брыгады "хуткай дапамогі".**

Паблізу аднаго з дамоў у вёсцы Абадоўцы з дзвюма колата-рэзанымі ранамі грудной клеткі знайшлі труп 18-гадовага жыхара вёскі Порса.

Следча-аператыўная група райаддзела Следчага камітэта ўстанавіла, што забойства адбылося 9 ліпеня каля двух гадзін ночы. Нецвярозы 37-гадовы жыхар вёскі Дварэц Іжанскага сельсавета пырнуў хлопца два разы нажом у грудзі, ад якіх ён памёр на месцы.

Начальнік Вілейскага раённага аддзела Следчага камітэта **Мікалай Раманчук** расказаў акалічнасці трагедыі. Кампанія чалавек з 15 жартавала, хтосьці пастукаў у вокны дома. Адтуль выбег мужчына, злавіў аднаго з хлопцаў і нанёс два ўдары нажом.

Мужчына быў раней судзімы за наўмыснае забойства ў 2001 годзе.

Яго затрымалі. Цяпер ён у ізалятары.

Узбуджаная крымінальная справа за "забойства, здзейсненае асобай, якая раней учыніла забойства". Мужчыну пагражае пазбаўленне волі ад 8 да 25 год або пажыццёвае зняволенне, або смяротнае пакаранне.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

ВЫШУК

## Дапамажыце адшукаць чалавека

**МАЛАДЗЕЧНА. Маладзечанскі РАУС шукае Вікторыю Мікалаеўну Алімаву, 1983 года нараджэння.**



Сёлета 3 ліпеня разам са сваім двухгадовым сынам **Сіманам** выйшла з дому і не вярнулася.

**Прыкметы:** 29 гадоў, худая, плечы гарызантальныя, твар трохвугольнай формы, смуглявая; лоб прамы, вертыкальны; вочы блакітныя, вялікія; вушы сярэднія, авальныя; валасы прамыя, цёмна-русыя; голас звонкі; бровы дугападобныя; нос сярэдні, крыху ўвагнуты; губы прамерна выступаюць, сярэдняй таўшчыні.

**Была апранутая:** доўгая спадніца сіне-белага колеру; блузка бэзавага колеру; басаножкі блакітнага колеру без абцасаў; камплект сподняй бялізны крэмавага колеру.

Просім грамадзян, якія ведаюць што-небудзь аб месцазнаходжанні жанчыны, звярнуцца ў Маладзечанскі РАУС па тэл. **8-0176-749683, 8-0176-770312, 8-0176-771656** ці ў бліжэйшы аддзел міліцыі па тэлефоне **102**.

**Паводле інфармацыі Маладзечанскага РАУС.**

ЁСЦЬ ПРАБЛЕМА!

# На 150 метраў дарогі – 193 яміны

## Праезд у дварах, уздоўж гімназіі №6 да "Космаса", цалкам разбіты



Фота Вольгі ЮРКЕВІЧ.

І гэта яшчэ не самая вялікая глыбіня ямін.

**МАЛАДЗЕЧНА. Нядаўна да нас у рэдакцыю ў чарговы раз заляцела абураная жанчына: "І вы яшчэ называеце сябе газетай?! Побач з вамі дарога такая, што ні прайсці, ні праехаць, а вы зрабіць нічога не можаце!"**

Сапраўды, зрабіць мы нічога не можам, бо адной рыдлёўкай тут ужо не дапаможаш. Але нагадаць пра гэта – нагадаем.

Заходзячы ў рэдакцыю, людзі ў размове часта ўзгадваюць разбітую дарогу: на машыне не праехаць, дзяцей у садок не завесці, на рынак не прайсці.

На ўласным досведзе мы ведаем, што на аўтамабілі без скрыгатання падвескай праехаць немагчыма нават на мінімальнай хуткасці. Адчуванне такое, што ў машыны адарвецца не толькі падвеска, але і колы адваляцца.

Дарога моцна б'е і па кашальках кіроўцаў. Ім даводзіцца рамантаваць ці мяняць падшыпнікі, падвескі ды амартызатары. Каштуе гэта нятанна. Нават у "Жыгулях" памяняць падшыпнікі – 200 тысяч. Уявіце, колькі будзе каштаваць рамонт дарагой машыны?

Аднойчы здарылася так, што кіроўца, які вёз у дзіцячы садок прадукты, падчас дажджу мёртва засеў ў яміне. Каб выцягнуць машыну, давялося выклікаць МНС.

За апошнія гады праезд зусім пагоршыўся. Яміны з кожным днём і з кожным дажджом усё павялічваюцца.

Не першы раз "РГ" піша пра гэта. Апошні раз мы дасылалі ліст у "Камунальнік" у 2010 годзе. Адказ быў чаканы: "Разбяромся ў сітуацыі".

Дарожная служба лічыць, што праезд разбураюць карані дрэў, якія растуць уздоўж яго. Аднак дрэвы растуць і побач з цэнтральнымі вуліцамі, але асфальт там добры.

### Карэспандэнты "РГ" самі правялі даследаванне праезду

Даўжыня праезду каля 150 метраў. З боку садка ямін аказалася 136, а з боку гімназіі №6 – 57.

Самая вялікая яма, якую мы знайшлі, – 150 сантыметраў у даўжыню і 100 – у шырыню. Глыбіня не каля чатырох сантыметраў. Іншыя ямы былі глыбейшыя, аж да дзевяці.

Праезд мералі сантыметрам і школьнай лінейкай у спякоту. У дождж ямы размывае яшчэ больш. Пра міжсезонне няма чаго і казаць.

Зімой вада ў ямах замярзае і павялічвае іх памеры. Гэта значыць, што з кожным годам ямінь становяцца большыя.

Медыкі кажуць, хваробу лепш папярэдзіць, чым лячыць. Чаму ж хвароба нашага праезду становіцца хранічнай?

**Вольга ЮРКЕВІЧ.**
**Галіна СІНІЦА.**

ЗДАРОЎЕ

# Кляшчы атакуюць

**РЭГІЁН. Лета радуе нас не толькі добрым надвор'ем, сонейкам, кветкамі, садавіной і гароднінай, але і засмучае з'яўленнем непрыемных насякомых, самыя жудасныя сярод іх – кляшчы.**

Каб не пацярпець ад гэтых крывасмокаў, трэба выконваць некаторыя парады:

– апранайце адзенне з доўгімі рукавамі, шчыльнымі манжэтамі, штаны засуньце ў боты;

– выкарыстоўвайце аэразолі супраць кляшчоў і іншых насякомых;

– трымайцеся далей ад хмызнякоў, высокай травы;

– пасля таго, як вярнуліся з лесу, уважліва агледзьце сваё цела, асабліва шыю, грудную клетку, падпахамі.

Памятайце, што клешч можа сядзець не толькі на целе, але і на адзенні. Перш чым ён увап'ецца ў скуру, можа доўгі час поўзаць па ёй. Таму праверце і адзенне.

### Што рабіць пры ўкусе?

Як раяць медыкі, кляшча трэба асцярожна выдаліць з цела. Зрабіць гэта можна пінцэтам ці звычайнай ніткай. Яго асцярожна выцягваюць за жывот, злёгку разгойдваюць пінцэтам.

Пасля таго, як вы выдалілі кляшча, месца ўкусу неабходна змазаць ёдам ці спіртам. Калі іх няма пад рукой, трэба добра прамыць месца ўкусу вадой. Абавязкова звярніцеся да доктара.

### Чым шкодны укус?

Пасля ўкусу кляшча можа развіцца энцэфаліт. Захворванне пачынаецца як звычайная прастуда, з галаўнога болю, агульнай стомленасці, ламаты ў суставах. Можа падняцца тэмпература, млоснасць, галавакружэнне. Калі вы знайшлі хаця б адзін сімптом, трэба звяртацца да доктара.

Не менш страшным захворваннем з'яўляецца барэліёз, ці хвароба Лайма. Яе першым сімптомам з'яўляецца пухліна на месцы ўкусу і павелічэнне лімфатычных вузлоў, стомленасць, тэмпература. Пры гэтым трэба памятаць, што калі не лячыць хваробу, то можа развіцца сардэчная недастатковасць.

### Колькі людзей звярнулася да дактароў

**МЯДЗЕЛ.** Ад укусаў кляшчоў у Мядзеле пацярпела за паўгода 75 чалавек, за чэрвень – 30. За ўвесь перыяд сярод дзяцей – 21 чалавек, за чэрвень – 16.

**СМАРГОНЬ.** У Смаргоні за паўгода звярнулася з укусамі 105 чалавек, сярод іх 30 дзяцей, за чэрвень ад кляшчоў пацярпелі чацвёра дзяцей.

**ВАЛОЖЫН.** Памочнік энтамолага Валожынскага раённага цэнтра гігіены і эпідэміялогіі **Марына Анціпава** расказала, што ў Валожынскім раёне кляшчы ўкусілі 107 чалавек, у тым ліку 42 дзіцяці. За чэрвень – 68, сярод іх 19 дзяцей.

**МАЛАДЗЕЧНА.** Маладзечанскі цэнтр гігіены і эпідэміялогіі паведаміў, што людзі пачалі звяртацца з укусамі кляшчоў толькі ў маі і чэрвені. За гэты час звярнулася 186 чалавек, у тым ліку 108 дзяцей.

**ВІЛЕЙКА.** У Вілейцы з укусамі кляшчоў звярнулася 17 чалавек, сярод іх 10 дзяцей. **Васіль Міласердаў**, памочнік доктара-эпідэміёлага, кажа, што даследаванні кляшчоў у дарослых людзей праводзяцца платна, дзяцей – бясплатна.

Трэба заўважыць, што не ўсе людзі здаюць кляшчоў на даследаванне. Таму ахвяр іх намнога больш.

Найбольш улюбёнымі месцамі гэтых насякомых з'яўляюцца лясы, паркавая зона, менш іх у горадзе.

**Галіна СІНІЦА.**

• Аўтаэлектрык, камп'ютарная дыягностыка, устаноўка сігналізацыі, падключэнне аўтамагнітол. ІП Бандарэнка А.К. УНП 690383566. Т. (8-029) 5717325.*

• Ацяпленне, устаноўка катлоў, мантаж сантэхабсталявання. ІП Ражкоў С.А. УНП 691507631. Т. (8-033) 3353199.*

• Будаўнічыя работы (абліцоўка, сцяжкі, тынкаванне фасадаў). ІП Фалей Д.В. УНП 691288730. Т. (8-033) 3352254.*

• Бурэнне свідравін на ваду, 45 у.е. метр, дагавор. ІП Янцэвіч А.Р. УНП 590945450. Т. (8-029) 7860317, (8-029) 8817111.*

• Выраб і рэалізацыя пенапласту 15-20-25-30 шчыльнасцяў. ІП Панічаў А.І. УНП 591802484. Т. (8-029) 9345433, Аляксандр, (8-029) 9971357, Вікторыя, (8-01592) 61135, пасля 18-00.

• Вырабім вароты (аткатныя, распашныя), агароджы, казыркі, летні душ, навесы, дэкаратыўныя мангалы. ПП "Сталь Хаус". УНП 691509981. Т. (8-029) 7682250, (8-044) 5843588.

• Вядучы тамада, правядзенне вечароў, юбілеяў, вяселляў, вакалісты, шоў-праграма, баян,святламузыка, лазерна-дымавое афармленне, нядорага. ІП Кулікові ч Т.І. УНП 691292974. Т. МТС (8-033) 3523507, Вэлком (8-029) 3242015.*

• **ДАХ, УЦЯПЛЕННЕ, АДДЗЕЛКА** ўнутраная, вонкавая. Вагонка. Сайдынг. Блок- хаўс. ІП Ходаль В.А. УНП 391074376. Т. (8-029) 9920647, (8-029) 8910834.*

• Добраўпарадкаванне пахаванняў, дэмантаж прыродным каменем. ІП Куцаеў В.В. УНП 591803212. Т. (8-029) 6689034.*

• **ЗАТОЧКА ІНСТРУМЕНТУ**, ланцугоў бензапіл, дыскавых піл, свердлаў, нажовак па дрэве і г.д. Вул.Касманаўтаў 1-а, кіёск "Выраб ключоў". ПП "Майстарключ". УНП 190923089. Т. (8-029) 3731060, (8-029) 3811905.*

• Зварачныя работы, выраб варотаў, калітак, агароджаў, лавак з навесам і без, рашоткі на вокны, мангал з навесам, каркасы цяпліц і г.д., нядорага. ІП Герасімаў В.А. УНП 691511344. Т. МТС 8545172.

• Земляныя паслугі міні-экскаватара JCB 803 PLUS (траншэі, катлаван пад газ, водаправод, падмурак), глыбіня 2,7 м. ІП Матусевіч Ю.Н. УНП 691397070. Т. (8-029) 6654868.*

• **"COMPUTER HELP" – КАМП'ЮТАРНАЯ ДАПАМОГА.** Windows, Wi-Fi і іншае. Навучанне. Магчымы безнаяўны разлік. Выезд. ІП Кісялёў Р.А. УНП 691294341. Т. Вэлком **(8-044) 4714220**.

• Кандыцыянеры – рамонт, запраўка, дыягностыка. ІП Усаў Д.А. УНП 691509489. Т. (8-029) 7042405.*

• **КОЛЬЦЫ КАЛОДЗЕЖАЎ. ТРАТУАРНАЯ ПЛІТКА. БАРДЗЮР. ВАДАСЦЁКАВЫЯ СІСТЭМЫ.** ТАА "Смаргоньпрамбуд". УНП 590846913. **Т. (8-029) 8689438.***

• МАЗ, самазвал, 10 т; пясок, жвір, ПГС, раствор, бетон, вываз смецця. ІП Сушко А.А. УНП 690690644. Т. (8-029) 3385358, (8-029) 7588449.*

• Міні-экскаватар, міні-пагрузчык, трамбовачныя машыны, бурэнне свідравін. ІП Кісель А.П. УНП 691507139. Т. (8-029) 1790000.*

• Праекціроўка прыватных 1- або 2-павярховых дамоў. ІП Фалей Д.В. УНП 691288730. Т. (8-033) 3352254.*

• **РАМОНТ ТУРБІН.** ІП Былінскі В.М. УНП 690475812. Т. (8-029) 7639480, (8-044) 7639480.*

• **РАМОНТ ТЭЛЕВІЗАРАЎ ДОМА. ГАРАНТЫЯ.** ІП Зелянко В.М. УНП 690040614. Т. (8-0176) 772328, (8-029) 2710273, (8-044) 5559347.*

• Распілоўка лесу з выездам да заказчыка (дошка, брус, кроквенная сістэма). ІП Гардзей А.У. УНП 591700580. Т. (8-029) 6141320, (8-029) 9439027.*

• **ТРАТУАРНАЯ ПЛІТКА**, борт тратуарны, накрыўка на слуп, балясіны, дэкаратыўны камень. У асартыменце. ІП Юрэвіч В.В. УНП 691505215. Т. (8-044) 7168663, (8-029) 8761382. *

• Франтальны пагрузчык ТО-18, коўш 2 куб.м (планіроўка, капанне катлаванаў, пагрузка смецця, разгрузка блокаў, цэглы, абсталявання). Экскаватар ЮМЗ (каўшы 40 і 60 см). Міні-экскаватар УСВ (глыбіня да 2,7 м). ТАА "МатэкПро". УНП 695501712. Т. (8-029) 3622022, (8-033) 6686871.*

• Фундамент, кладка, дах, зруб. ІП Яновіч Ч.А. УНП 600163826. Т. (8-029) 5024571.*

• Шафы-купэ, прыхожыя, спальні, дзіцячыя пакоі. ІП Купрэйчык А. П. УНП 690685907. Т. (8-029) 5085160, (8-044) 7899734.*

• **ШОУ** клоўна – дзіцячыя святы, дні нараджэння (фігуркі з шарыкаў, мыльныя бурбалкі), выпускныя вечары і іншае. Вядучы на вяселле, карпаратывы, юбілеі. ІП Кананові ч І.Е., УНП 691501156. Т. (8-029) 8596692.*

## РОЗНАЕ

### ПРАДАЕЦЦА

**БУДМАТЭРЫЯЛЫ, САНТЭХНІКА**

• Арматуру дыяметрам 8, 10, 12. Дапамагу з дастаўкай. Т. (8-029) 7737697 МТС.*

• Блокі газасілікатныя, пліты перакрыцця, ФБС. ЧП "ВоІлСтрой". УНП 591802229. Т. (8-044) 5500334, (8-029) 8669921.*

• Блокі газасілікатныя, наяўны і безнаяўны разлік. ІП Арлова О.Р. УНП 590976095. Т. (8-029) 6650413, (8-029) 7818704.*

• Блокі г/с, ФБС (падмуркавыя блокі, бетон, раствор, піламатэрыялы, цэгла, пліты перакрыцця, любая ф/а, дастаўка. ПП "Звездачот". УНП 691172990. Т. (8-029) 8774124.*

• Вугалок, трубу профільную, арматуру, сетку, гідраізаляцыю для фундамента, дапамагу з дастаўкай. Т. (8-029) 3837697 Вэлком.*

• Слупы для агароджы, сетку-рабіцу. Т. (8-033) 6603068 МТС.*

• Шыфер, магу дапамагчы з дастаўкай, 183 лісты. Т. (8-029) 8837537.*

• Уцяпляльнік пена-бетонны, гандаль дарэчы. Т. (8-044) 5384277.*

• Самарэзы для металачарапіцы 3000 мм, зялёныя, 400 р. шт. Т. (8-029) 6434740.*

**Сельгас-, будаўнічая тэхніка, абсталяванне**

• Касілка сегментная да МТЗ. Т. Вэлком 1707186.*

• Кормазапарнік, новы, 60 л. Т. (8-029) 7696529.*

• Мотаблок Беларус 09Н (рухавік Хонда), 17700000, 2013 г.в, касілка ротарная да мотаблока, 4500000, новая, глебафрэза да мотаблока, 2013 г.в. Т. (8-029) 2712477 МТС, (8-029) 3136538 Вэлком.

• Колы гумовыя (два) ў зборы да мотаблока Магнум, памерам 5х12. Т. 7677504 МТС.

• Трактар самаробны; рухавік УД-25, бензін. Т. 1446391 Вэлком, у Маладзечне 732075.

• Трактар МТЗ-50, навяснoе. Т. (8-029) 2609044.

• Бензакаса, 160 у.а. Т. (8-033) 6034106.*

• Бензакаса Ерманн (Швецыя), два радкі-галавы, 3 стужкі, фрэза – 3 зубы, набор ключоў, маска, злучальныя муфты, навушнікі, цана 1200000 руб. Т. (8-029) 5528785, (8-044) 7469601.*

• Каса бензінавая, 3,5 квт. Т. (8-029) 6399324.

• Батарэі чыгунныя, б/у. Т. (8-029) 6319537.*

**Бытавая тэхніка**

• Касілка сегментная да МТЗ. Т. Вэлком 1707186.*

• Машына пральная LG, б/у, 1900000 руб. Т. (8-033) 6322706.

• Пліта газавая Гефест ПГ 1200 С, новая, нядорага. Т. (8-029) 7588548, Маладзечна.*

• Пліта газавая Гефест 600-02 Т2, новая, ва ўпакоўцы 60х60х85, 2 міл. 500 тыс. руб, торг магчымы. Т. (8-029) 5162921 МТС, (8-029) 3415823 Вэлком, (8-0176) 703460.*

• Пліта газавая М 1457-02, 60х60, б/у, у добрым стане, нядорага. Т. (8-029) 5653367.

• Электрычны воданагравальнік, новы, праточнага тыпу, 100000 руб. Т. (8-01771) 68318, Вілейка.

**Камп'ютары, TV, сродкі сувязі**

• **АБАНЕНЦКІЯ КАРТЫ «ТРЫКАЛОР» - СКІДКІ! АКЦЫЯ! ЛІЧБАВЫЯ ПРЫЁМНІКІ АД 350000 РУБ.** ІП Бойка Т.Л. УНП 691290609. **Т. (8-044) 7170634, (8-033) 3352045.***

• **АКТУАЛЬНА! АНТЭНА СПАДАРОЖНІКАВАЯ**. Абаненцкай платы няма! Растэрміноўка без працэнтаў. ІП Емяльянаў А.В. УНП 600361413. Т. (8-029) 7627898.*

• **АКТУАЛЬНА! АНТЭНА СПАДАРОЖНІКАВАЯ.** Высокая якасць адлюстравання. Гарантыя. ІП Емяльянаў А.В. УНП 600361413.Т. (8-029) 3326779.*

• **АКТУАЛЬНА! АНТЭНА СПАДАРОЖНІКАВАЯ.** Кантроль якасці. Т. (8-029) 5702212.*

• **АКТУАЛЬНА! АНТЭНА СПАДАРОЖНІКАВАЯ**. Трыкалор. Т. (8-029) 9056393 Вэлком.*

• **АНТЭНЫ СПАДАРОЖНІКАВЫЯ ТРЫКАЛОР, НТВ-ЛАЙТ, HD.** Растэрміноўка без %. ІП Бойка Т.Л. УНП 691290609. Т. (8-044) 7170634, (8-033) 3352045.*

• **АНТЭНЫ СПАДАРОЖНІКАВЫЯ ТРЫКАЛОР, НТВ-ЛАЙТ, ЛІЧБАВАЕ ТБ.** Растэрміноўка без % да 12 месяцаў. ГД "Тройка", п. 536. ПГУП "Ліцераль". УНП 690371107. Т. (8-0176) 738353, (8-029) 3900408, (8-029) 7728320, **www.literal.deal.by***

• **КАМП'ЮТАРЫ, НОЎТБУКІ,** нізкія цэны, крэдыт, растэрміноўка. Маладзечна, вул. Будаўнікоў, 15А (Дом быту). ІП Норка С.П. УНП 690305194. Тэл. (8-029) 7774642.*

• ТВ Samsung, 107 см, плазма, новы, з Германіі, нядорага. т. (8-029) 6575486.*

• Тэлевізар Toshiba вадкакрышталічны, 23 дзюймы, белы, абсалютна новы, 3 млн, дастаўлю. Т. (8-029) 9871181.

**МУЗІНСТРУМЕНТЫ**

• Баян, вытворчасць Тула, б/у, 50 у.а. Т. (8-029) 8719836.*

**МЭБЛЯ**

• Мяккі куток (канапа + два крэслы), б/у, у добрым стане. Т. (8-029) 5609431.*

• Мяккі куток. Т. (8-029) 8575359 МТС.

• Секцыя "Іпуць", у добрым стане, нядорага, тэрмінова. Т. (8-029) 8501087.*

• Шафа, ложак, халадзільнік, усё б/у. Т. (8-029) 8853217 МТС.*

**ЖЫВЁЛА, ПТУШКА, ПЧОЛЫ**

• Каза, козачка, в'етнамскія парасяты. Т. (8-029) 7677829, Мядзел.

• Козы маладыя. Т. (8-029) 8725294. Вілейка.

• Пчолы з вуллямі. Т. (8-0176) 754196, Маладзечна.

• Кабыла рабочая, 7 год. Т. У Маладзечне 732565, МТС 5644195.

• Карова высокаўдойная, Вілейскі раён. Т. (8-029) 7624780 МТС.

• Карова, дойная, 4 гады. Т. (8-029) 7070872, (8-029) 2524190 МТС.

• Конь, 13 год. Т. МТС (8-029) 2581208, МТС (8-029) 5002408, у Мінску (8-017) 2085462.

• Козы дойныя, казляняты. Т. (8-029) 7677829, Мядзел.

• Куры-нясушкі. Т. (8-029) 5653729.

• Свіней, Вілейка. Т. (8-029) 8766740 МТС.

• Трусы, 3-месячныя, па 100000 р., Вілейка. Т. (8-029) 1279252, (8-029) 5587767.*

**ІНШАЕ**

• Альтанкі, магчымы заказ кліента, Маладзечна. ПП "Майстарключ". УНП 190923089. Т. (8-029) 3811905.*

• Камень натуральны пясчанік-пластушка. ІП. Куцаеў В.В. УНП 591803212. Т. (8-029) 6689034.*

• Лодка, 110 у.а. Т. (8-033) 6034106.*

• Мёд, пасека ў Нарачанскім заказніку, 1 літр – 100 т.р., дастаўка па Вілейцы бясплатна. Т. (8-029) 1279252, (8-029) 5587767.*

• Мяса труса. Т. (8-029) 7628438.*

• Электрамабіль дзіцячы квадрацыкл, да 30 кг, $100. Т. МТС (8-029) 7555717.*

### КУПЛЮ

**Будматэрыялы, сантэхніку**

• Арматуру, вугалок, дрот, сетку. Т. (8-029) 7737697.*

• Сетку арматурную для падлогі. Т. (8-029) 6575486.*

**Сельгас-, будаўнічую тэхніку, абсталяванне**

• Бензаінструмент (STIHL, Husqvarna). Т. (8-029) 5648002, (8-0176) 44212.*

• Бетонамяшалку, б/у, айчыннай вытворчасці. Т. (8-029) 6336012.

**Бытавую тэхніку**

• **НЯСПРАЎНЫЯ ПЛАЗМЕННЫЯ І LCD ТЭЛЕВІЗАРЫ. Т. (8-029) 6434740.***

**Музінструменты**

• Гармонік. Т. у Валожыне 50870, Юрка.*

• Футарал для цэлай скрыпкі. Т. (8-029) 6927353.*

**Жывёлу**

• Галку. Т. (8-029) 5019550.*

• Каня, авечак, буйную рагатую жывёлу і іншыя віды дамашняй жывёлы, дорага. ІП Кеўра А.С. УНП 590818581. Т. (8-044) 4846590, (8-029) 3939256.*

**Антыкварыят**

• **АНТЫКВАРЫЯТ ЛЮБЫ! МАНЕТУ, МЕДАЛЬ, СТАТУЭТКУ. Т. (8-029) 7764214.***

• **АНТЫКВАРЫЯТ, ФОТААПАРАТЫ, ГАДЗІННІКІ, ГРАМАФОНЫ, АБРАЗЫ, МЭБЛЮ, ФАРФОР І ІНШЫЯ СТАРАЖЫТНЫЯ РЭЧЫ.** Т. (8-0176) 765542, (8-029) 6564854.*

• **АНТЫКВАРЫЯТ. ДОРАГА!** Карціны, іконы, манеты, рублі СССР, статуэткі СССР, медалі, знакі, ордэны і інш. Т. МТС (8-029) 5586238.*

• **СТАРАЖЫТНЫЯ** карціны, іконы, манеты і іншае. Т. (8-029) 8719950.*

• **МАНЕТУ ДА 1940 г., МЕДАЛЬ, ФАРФОР, ОРДЭН І ІНШ.** Т. (8-029) 5744744.*

**Іншае**

• 4-ы том Беларускай энцыклапедыі, выдав. "Беларуская Энцыклапедыя" імя Петруся Броўкі, 1996. Т. (8-029) 6550799.*

• Балон кіслародны, вуглекіслотны. Т. (8-029) 8466093.*

• Палатку, гамак. Т. (8-029) 6028263.*

• Аддам кацянят у добрыя рукі, ручныя, прывучаныя да латка. Т. (8-029) 5587767, (8-029) 1279252.

• У дар тхор (дзяўчынка), 2,5 мес., сабаліны акрас, у добрыя рукі. Т. (8-029) 8580706.

**ЗГУБЛЕНА**

• Прапаў сабака пароды бостан-тэр'ер, мянушка Джэк, хлопчык, 5 год, акрас тыгровы, раён будаўніцтва новага мясакамбіната, узнагароджанне будзе. Т. (8-029) 5703990, Андрэй; (8-029) 9168158, Анатоль.

**ІНШАЕ**

• Паважаныя бацькі! Запрашаем Вас **У АБНОЎЛЕНЫ МАГАЗІН ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ "МАРЫЯ-КІДС"**. Для вас – дзіцячыя ложкі "Bambini" (маятнік, скрыня, качалка), адзенне для дзяцей, канверты, камплекты на выпіску, пасцельныя прыналежнасці. Чакаем вас па адрасе: г.Вілейка, вул.17 Верасня, РКБА 2- і паверх, магазін "Марыя-Кідс".*

### ШУКАЮ РАБОТУ

• Шукаю працу: якаснае аздабленне кватэр, дамоў, столі пад афарбоўку, шпаклёўка, шпалеры і г.д. ІП Скуратовіч С.С. УНП 691507287. Т. (8-029) 2501031.*

• Цясляр-сталяр шукае падпрацоўку: ламінат, лесвіцы, вагонка, гіпсакардон, блок-хаўс, сайдынг, падлога. Т. (8-029) 2620228, (8-029) 9382802.*

• Шукаю падпрацоўку: чыстка і афарбоўка шыферу. Т. (8-029) 2620228, (8-029) 9382802.*

• Шукаю працу муляра, досвед: бесер, клінкер, абліцовачная цэгла, агароджы, падмурак, перагародкі. Т. (8-029) 7695006.*

## ПРАЦА

### ПАТРАБУЮЦЦА

• У салон сувязі патрабуецца прадавец-кансультант. Веданне камп'ютэрнай і мабільнай тэхнікі абавязковае. Заробак ад 2,5 млн. руб. Т. (8-029) 6186479. ПТУП "АйЦі Лайма", УНП 691297698. Т. (8-029) 6186479.*

• Рабочыя-касцы. Аплата дагаворная. ПУП "Салюр". УНП 691171527. Т. (8-029) 7031910.*

• Арганізацыі патрабуюцца на пастаянную работу ўкладчыкі палімернай падлогі. ПВГУП «Спецаргбуд Маладзечна». УНП 691288000. Т. (8-029) 3884989.*

• Арганізацыі ТАА «Энергастымул», на вытворчасць у Вілейцы патрабуюцца начальнік вытворчасці, токар, зваршчык, слесар МСР, аператар фарбавальна-сушыльнай линии, аператар ЧПУ. УНП 691171078. Тэл. у Мінску (8-017) 3462370, Аксана, Сяргей Віктаравіч.*

• Маляры, тынкоўшчыкі, муляры, аддзелачнікі на работу ў Мінск, з/п ад 8 мільёнаў. ІП. Куцаеў В.В. УНП 591803212. Т. (8-029) 8690968, (8-029) 6689034.*

• Фермерскай гаспадарцы "Святціцкага" патрабуецца на работу вадзіцель на лесавоз-сартыментавоз новы; станочнікі стужкава-пільных станкоў, аплата дастойная. УНП 600538931. Т. (8-029) 1266171.*

# Пераманьвалі мастака ў Вільню – не пагадзіўся

**МАЛАДЗЕЧНА. Выстава "Мой горад – маё багацце" Васіля Лазоўскага адкрылася 16 чэрвеня, калі майстар пэндзля адзначыў сваё 60-годдзе. У дзвюх залах мастацкай галерэі ў Плябані выстаўлена каля 40 работ мастака.**

На ўрачыстасці з нагоды адкрыцця выставы прысутнічалі дырэктар дзіцячай мастацкай школы **Наталля Трус** з выхаванцамі, былы дырэктар гэтай школы **Васіль Таркан**, сябры-мастакі **Генадзь Селядзец**, **Анатоль Акулік**, **Аляксандра Рашэтнікава**.

**Галіна СІНІЦА.**



Фота Васіля ТАРКАНА.

Мастак Васіль Лазоўскі на сваёй выставе.

## Нам пішуць



*Нарадзіўся мастак непадалёк ад Плябані – у Татаршчызне. Гэтыя прыгожыя мясціны і сталі крыніцай натхнення, аб чым сведчаць яго цудоўныя пейзажы.*

*Васіль Лазоўскі скончыў Мінскі дзяржаўны мастацкі каледж імя Глебава ў 1973 годзе. Потым пачалася творчая работа ў майстэрнях, праца ў дзіцячай мастацкай школе. Як адзначаюць яго сябры: "Ён сапраўдны настаўнік, яго вельмі любяць дзеці, а гэта шмат аб чым гаворыць! Майстар пэндзля, філосаф і псіхолаг. Мноства выпускнікоў, якія вучыліся ў яго, цяпер працягваюць навучанне ў Варшаве, Мінску, Мілане, Вроцлаве".*

### Разнастайнасцю творчай манеры прыцягвае ўвагу

*Хочацца распавесці і пра карціны мастака. Нацюрморты ўяўляюць сабой прыгожа скампанаваныя палотны. Яны яркія, сакавітыя, навеяныя беларускай рэчаіснасцю, у іх шмат свята. Яны маюць асаблівае эмацыйнае і музычнае гучанне, жывуць у прасторы.*

*Многа работ прысвечана Вільні. Калісьці яго запрашалі жыць і працаваць там, але лёс пакінуў таленавітага мастака ў Маладзечне.*

*У яго творчай манеры прысутнічае і рэалізм, і абстракцыянізм, і мадэрнізм. Таму яго карціны разнастайныя, прыцягваюць увагу.*

*Калі сказаць, якая з работ лепшая альбо самая-самая, іх трэба бачыць. У працах многа філасофіі, у колеры адчуваецца пранікненне душы, трапяткое ўспрыманне свету. На карціны трэба ўзірацца, бо ў іх можна знайсці таемнае, асабістае.*

**Васіль ТАРКАН, мастак, былы дырэктар дзіцячай мастацкай школы.**

■ **СЕМІНАРЫ**

# Бібліятэчная справа на шляху перамен

**АСТРАВЕЦ. АШМЯНЫ. СМАРГОНЬ. Сумесны семінар маркетолагаў бібліятэк трох раёнаў – Астравецкага, Ашмянскага і Смаргонскага – адбыўся сёлета ў чэрвені.**

Тры дні, з 19 па 21 чэрвеня, вялася размова аб тым, якія захады трэба зрабіць бібліятэкам, каб адпавядаць сучаснасці. Інавацыйнасць і крэатыўнасць у рабоце бібліятэк не капрыз, а новыя запатрабаваныя формы работы.

Першымі прымалі гасцей астраўчане, якія расказалі і паказалі сваю работу на прыкладзе Астравецкай цэнтральнай раённай бібліятэкі, Мальскай сельскай і Гервяцкай сельскай бібліятэкі-цэнтра нацыянальных культур. Падвялі вынікі першага дня рэгіянальнага семінара ў Рымдзюнскай бібліятэцы. Не мінулі госці і Троіцкі касцёл ў Гервятах, ад інтэр'еру і дызайну ландшафту якога ніхто не застаўся раўнадушным.

Другі дзень семінара бібліятэкараў прайшоў на Ашмяншчыне. Дзейнасць бібліятэчных установаў гэтага раёна ў прынцыпе не адрозніваецца ад астравецкіх, але пахваліцца там было чым. Да прыкладу, Гальшанская сельская бібліятэка рэалізавала праект "Дуга, якая аб'ядноўвае народы і культуры". Ашмянскія калегі падзяліліся сваім досведам пошуку пазабюджэтных сродкаў і гасцінна адвезлі ў Тупішкі, на месца, дзе пазначаны пункт Дугі Струвэ – помніка сусветнай спадчыны ЮНЕСКА.

Наведалі ўдзельнікі семінара таксама дзіцячую бібліятэку ў Ашмянах, Барунскі базыльянскі манастырскі комплекс, Кальчунскую бібліятэку-цэнтр сацыяльна-культурнай падтрымкі насельніцтва.

Трэці дзень удзельнікі семінара правялі ўжо на Смаргоншчыне, дзе пазнаёміліся з работай гарадской бібліятэкі №2, Жодзішкаўскай сельскай бібліятэкі і Ракавецкай бібліятэкі-клуба. Апошняя ўстанова сустрэла гасцей сапраўднымі вячоркамі. У цэнтральнай раённай бібліятэцы ўдзельнікі семінара пазнаёміліся з мастачкай Ага Мах і яе творчасцю і наведалі зімні сад політэхнічнага ліцэя горада.

Бібліятэчная справа ступіла на шлях перамен. Выкарыстанне маркетынгавых сродкаў дапамагае бібліятэчным установам прыцягнуць да сябе ўвагу карыстальнікаў, стварыць ім камфортныя ўмовы, задаволіць іх запыты, якія ў апошнія часы становяцца ўсё больш складанымі. Гэта і была асноўная задача сустрэчы супрацоўнікаў аддзелаў бібліятэчнага маркетынгу бібліятэчных сістэм трох раёнаў, а таксама дырэктараў і іх намеснікаў.

**Галіна ФРАНЦКЕВІЧ, метадыст аддзела бібліятэчнага маркетынгу Астравецкай цэнтралізаванай бібліятэчнай сістэмы.**

ГІСТОРЫЯ

# Успаміны валожынца Мікалая Махнача

*Працяг. Пачатак у №№6, 7, 9, 12, 14, 16, 18, 24, 26.*

**ВАЛОЖЫН. Успаміны валожынца Мікалая Махнача, які ў 17 гадоў, у 1939-м, пакінуў родныя мясціны і больш туды ўжо не вярнуўся. Цяпер ён жыве ў Злучаных Штатах Амерыкі.**

Пераклад з польскай мовы зрабіла Яўгенія Чаплінская з вёскі Літва Маладзечанскага раёна, былая аднакласніца і тайная сімпатыя Мікалая Аляксандравіча.

## Злучаныя Штаты Амерыкі

Мы прадалі, што можна было прадаць, а астатнія рэчы запакавалі ў тры чамаданы ды з сотняй фунтаў стэрлінгаў, на ізраільскім пасажырскім самалёце, прыляцелі на амерыканскі кантынент, у Нюарк у штаце Ню-Джэрсі. Пералёт працягваўся 18 гадзін. Гэта было 18 лістапада 1952 года.

Прызямліўшыся ў аэрапорце, адразу паўстала пытанне: “Што нас чакае на “зямлі Вашынгтона?” Яшчэ раней, у Англіі, мы перапісваліся з сям'ёй, з Зосяй і Тадэвушам Віткоўскімі, якія ўжо пераехалі і ўладкаваліся ў Амерыцы ў маі 1952 года. Абое яны ўжо працавалі, мелі кватэру і пісалі нам, каб, калі прыедуць у Штаты, то накіраваліся да іх, бо яны дапамогуць зрабіць першыя крокі на амерыканскай зямлі.

Мы так і зрабілі. Яны жылі ў горадзе Worcester (чыт. Вустэр) у штаце Масачусетс, наймалі кватэру ў трохпакаёвым драўляным доме.

А праз два дні ў Злучаных Штатах адзначалася свята “Дзень падзякі” (штосьці падобнае да нашых дажынак), яно прыпадае на трэці чацвер лістапада. Гэта сямейнае свята. Усе члены сям'і збіраюцца да бацькоў (прыязджаюць часам здалёк) на традыцыйны абед, на якім амаль заўсёды падаюць печанага індыка з рознымі дадаткамі. У традыцыю ўвайшло і адорванне сваіх работнікаў заводамі і прадпрыемствамі марожанымі індыкамі за пару дзён перад святам.

Для нас кожны наступны год дзень гэтага свята быў памятным, як гадавіна нашага прыезду ў Злучаныя Штаты.

Зося дапамагла маёй жонцы ўладкавацца да сябе на працу – на фабрыку, дзе выраблялі матэрыю на тонкія світары, кашулі, іншае адзенне. А я пайшоў у гарадскі аддзел працы. Прадстаўнік яго мяне цёпла прывітаў, распытаў, што я ўмею, дзе ўжо працаваў, спытаў пра нацыянальнасць. А калі даведаўся, што я быў жаўнер польскай арміі на Захадзе, а маё месца нараджэння ў Савецкай Расіі, тады сказаў, што ўсё добра разумее. Ён знайшоў мне працу ў ліцейцы, дзе выраблялі і адлівалі ўсё абсталяванне для папяровых фабрык. Напачатку стаўка была 1,05 даляра за гадзіну працы. Гэта было 1 снежня 1952 года.

Праз паўтара года я знайшоў працу на кілбаснай фабрыцы, дзе лепш плацілі і было чысцей. Тут часта надараліся звышурочныя гадзіны, за якія плацілі 150%. Змянілі і жыллё – знайшлі трохпакаёвую кватэру з ваннай у пажылых людзей Сямашкаў, якія прыбылі ў Амерыку перад Першай сусветнай вайной з Ашмянскага павета. Накупілі мы і адзення, і мэблі.

## Знаёмства з эміграцыяй

Як і ўсе новапрыбылыя, пачалі знаёміцца са старэйшай эміграцыяй. Яны мелі ўжо тут пэўны заробак. Пабудавалі касцёлы са школамі, у якіх дзяцей вучылі на мове бацькоў: па-польску, літоўску, шведску і іншых. Былі арганізаваны нацыянальныя таварыствы і клубы. Было таксама Таварыства ветэранаў польскай арміі ў Амерыцы. У большасці гэта былі жаўнеры з Першай сусветнай.

Яны прапанавалі нам, жаўнерам Другой сусветнай, далучыцца, павялічыўшы такім чынам арганізацыю ветэранаў (а было нас ужо ў гэтым горадзе каля 100 чалавек). Цяпер мы бралі ўдзел як у агульнаамерыканскіх, так і ў польскіх урачыстасцях. Наладжваліся сяброўскія танцы, сходкі і штогодняя з'езды ветэранскіх акруг. Кола знаёмых пашыралася. Мая другая Айчына аказалася для нас, уцекачоў, шчодрай і сапраўды вольнай.

Пасля чатырох гадоў знаходжання ў Амерыцы, у 1956 годзе, працуючы і патроху ашчаджаючы, мы купілі новую машыну фірмы “Форд”. Цана яе на той час была 2220 даляраў. Зразумела, машыну ўзялі ў крэдыт на паўтара года, унёсшы 500 даляраў задатку.

Працаваў я па 10 гадзін у дзень, 45 гадзін на тыдзень. А плацілі за 47,5 гадзіны. Зарплата, пасля вылічэння падаткаў, складала каля 100 даляраў за тыдзень, жонка зарабляла каля 60-і за тыдзень. І, шчыра сказаць, мы не лічылі сябе прыгнечанымі капіталістамі, бо наша цяжкая праца прыстойна аплачвалася. Мы былі прыгожа апранутыя і добра харчаваліся. У вольны час хадзілі ў кіно, у суботу – часта на патанцулькі, а летам ездзілі на атлантычныя пляжы, каб пакупацца і пагушкацца на марскіх хвалях.

## Грамадзянства

Пасля 5-гадовага знаходжання ў Штатах падалі заяву на грамадзянства. Пасля была асабістая сустрэча з прадстаўніком дзяржавы, які распытваў у нас трохі пра гісторыю Штатаў, характар улады, пра галіны заканадаўчыя, выканаўчыя, судовыя. Праз пару тыдняў усе, хто хацеў атрымаць грамадзянства, сабраліся ў вялікай зале, выслухалі выступленне пра абавязкі грамадзян на вернасць краіне.

Праз які тыдзень часу кожны з нас атрымаў паперы грамадзяніна. Пры той аказіі я змяніў сваё імя Мікалай на англійскае Nicholas (Нікалас).

Амерыканскае грамадзянства спатрэбілася жонцы і мне, бо ў ліпені 1960 года мы вырашылі паехаць у Польшчу, дзе рэжым камуністаў дапусціў нейкую трохі “адлігу” і дазволіў эмігрантам адведаць сваю сям'ю і радню. Я перапісваўся з нашымі суседзямі з Валожына, якія пераехалі з Беларусі ў Бранева ў былой Прусіі і загадзя папрасіў іх, каб выклікалі да сябе ў госці маю маму, і такім чынам спаткацца з ёй у іх.

## Спатканне з маці

Спаткаліся мы і правялі 15 дзён разам пасля 19-гадовай разлукі… Гэта былі для мамы і для нас мілыя і радасныя хвіліны. Пакінуў хату 17-гадовым падлеткам, а сустрэўся 38-гадовым і жанатым мужчынам. Вядома ж, шмат чаго даведаліся з мінулых ваенных гадоў.

Пасля вяртання ў Валожын мама сказала сястры Валі і сваім братам і сёстрам, што ўжо цяпер можа спакойна памерці, бо ўбачыла сына і нявестку. Але матуля яшчэ жыла пасля нашага спаткання 10 гадоў і памерла ў сакавіку 1970-га, пражыўшы 77 гадоў.

## Свой дом

У 1962 годзе вясной мы пачалі шукаць сабе дамок і знайшлі. Дом у мясцовасці, званай Лестэр, быў не такі вялікі, але меў чатыры пакоі і лазеньку, дзве спальні, вялікі пакой “франтовы”, як тут у Амерыцы называюць, для адпачынку з канапай, крэсламі і тэлевізарам, і даволі вялікую кухню, дзе была печка для гатавання, шафкі для начыння, стол з чатырма крэсламі. Пад домам знаходзіўся падвал, дзе была нафтавая печка, якой зімой абаграваўся дом, месца для мыцця і вялікі зліў. Цана за дом і гараж побач з домам была 12 тысяч даляраў.

Каб разлічыцца з домам, мы паехалі ў банк, дзе мелі ашчадны рахунак, каб зрабіць дамову на пазыку 11 тысяч даляраў. У такім разе банк высылае свайго спецыяліста па нерухомасці для агляду дома і пасля інспекцыі паведамляе пакупнікам, колькі можа пазычыць, на колькі гадоў выплаты і на які працэнт.

Звычайна банкі патрабуюць, каб пакупнік меў 5 або 7% уласных грошай на задатак. Мы мелі 1000 даляраў уласных грошай, пазычылі 11 тысяч на 15 гадоў выплаты пад 4,75 працэнта. Уся працэдура купілі працягвалася адзін месяц.

Не прайшло і двух месяцаў, як мы сталі гаспадарамі ўласнага дома. Праўда, толькі намінальна, бо дом хутчэй быў уласнасцю банка, які даў нам пазыку. Банк таксама раз на год інспектаваў усю ўласнасць, каб даведацца, як уладальнік абыходзіцца з жыллём.

Мы мелі нават тэлефон, які пачаў уваходзіць у моду. Пазнаёміліся з новымі суседзямі і пасябравалі.

## Спаборніцтвы парашутыстаў

У 1964 годзе ў нашым штаце летам былі арганізаваныя Міжнародныя спаборніцтвы парашутыстаў. Было прадстаўлена каля 30 краін. У іх ліку былі і расейцы (вельмі шматлікая каманда), палякі, балгары, венгры, румыны.

Я з жонкай, мой калега з дачкой таксама паехалі паглядзець на парашутыстаў. Сярод гледачоў знаходзіліся і ўдзельнікі спаборніцтва. Паміж сабранымі круціліся гандляры марозівам. Адзін з іх прыпыніўся каля расейцаў, і тады я пачуў, як нехта звярнуўся да некага з пытаннем, ці не мае ён дробных грошай, каб купіць марозіва. Той адказаў, што не мае. Пачуўшы такое, я падышоў да гандляра і кажу яму, каб кожнаму з расейцаў даў марозіва, за якое яму заплачу. Так той і зрабіў, трохі ўразіўшы расейцаў. Марозіва прынялі і адзін з іх кажа: “Большае вам спасибо за угощение”. Я па-расейску адказаў: “Пожалуйста, мне приятно было это сделать”. Здзівіла гэта іх, што ведаю мову, і адзін запытаўся, дзе я навучыўся расейскай.

**Мікалай МАХНАЧ.**
**Працяг будзе.**


Фота забяспечана Мікалаем МАХНАЧОМ.

Мікалай Махнач.

## КАЛЯНДАР

**12 ліпеня.** 95 гадоў з дня нараджэння Мікалая Шышкіна (1918 – 2000), беларускага артыста эстрады, спевака, заслужанага артыста Беларусі. З 1946 года артыст Дзяржаўнага тэатра оперы і балета БССР, у 1948–53 гадах – Белдзяржэстрады. У 1957–82 гадах – артыст гутарковага жанру Белдзяржфілармоніі: аўтар і выканаўца эстрадных фельетонаў, мініяцюр, сатырычных куплетаў, гумарыстычных апавяданняў.

***

**170 гадоў** з дня смерці гісторыка права Ігната Даніловіча (1788–1843). Працаваў у Вільні, Кіеве, Маскве, Пецярбургу. Адзін з першых даследчыкаў заканадаўчых і летапісных помнікаў Беларусі. Апісаў, пераказаў змест і часткова апублікаваў каля 2400 розных пісьмовых крыніц па гісторыі Беларусі і Літвы.

***

**13 ліпеня.** 75 гадоў з дня нараджэння Юрыя Марухіна (1938 – 2001), кінааператара, рэжысёра, заслужанага дзеяча мастацтваў Беларусі.

***

**230 гадоў** з дня нараджэння польскага акцёра Ігнацы Юзафа Вяроўскага (1783–1841). Дэбютаваў у Мінску ў 1802 годзе (трупа М.Кажынскага).

***

**14 ліпеня.** 100 гадоў з часу заснавання (1913) Беларускага выдавецкага таварыства. Дзейнічала ў Вільні ў 1913 – 1915 і ў 1919 – 1930 гадах. Заснаванае Б.Даніловічам, І. Луцкевічам, К.Шпакоўскім і іншымі на базе выдавецтва “Нашай нівы”. Выдавала і распаўсюджвала творы беларускіх літаратараў. На першым этапе існавання таварыства выпусціла ў свет 15 беларускіх кніг (творы Я.Коласа, М.Гарэцкага, К.Буйло, П.Беларуса, “Велікодную пісанку”, “Беларускія календары” на 1914, 1915 гады і іншае. Вядучае месца займала выданне мастацкай літаратуры, твораў беларускіх пісьменнікаў і паэтаў, перакладаў. У кіраўніцтва таварыства ўваходзілі вядомыя культурна-грамадскія дзеячы Заходняй Беларусі. Дзейнасць была спыненая ў 1930 годзе пасля забароны ўрадам Польшчы легальных форм вызваленчага руху.

***

**35 гадоў** з часу выдання (1978) Закона БССР “Аб ахове і выкарыстанні помнікаў гісторыі і культуры”.

***

**16 ліпеня.** 95 гадоў назад пачаў работу 1-ы з'езд камітэтаў беднаты Заходняй вобласці.

***

**17 ліпеня.** 75 гадоў з часу адкрыцця (1938) Дзяржаўнага тэатра лялек Беларусі (першапачаткова дзейнічаў у Гомелі; з 1950 года – у Мінску).

**Падрыхтавала Марыя БЕРАСНЕВА.**

МОВА

# “Прышпільная” мова,

## або Небяспека сыходзіць ад гарачых прыхільнікаў беларушчыны

**Цяперашні стан беларускай мовы – бадай, самы трагічны за ўсю гісторыю яе існавання.**

Лёгкіх часоў яна не ведала ніколі, але раней існаваў магутны вясковы беларускамоўны пласт. Цяпер жа і вёска русіфікаваная дашчэнту. Практычна знішчаныя беларускія школы, хоць нават у часы як першай, так і другой нямецкай акупацыі яны існавалі. Іначай і быць не можа, пакуль краінай кіруе асоба, якая дзіка, паталагічна ненавідзіць усё беларускае.

З уладамі ўсё зразумела – калі не лічыць нехалькіх нацыянал-камуністаў 20-х гадоў мінулага стагоддзя, ніводзін кіраўнік не дбаў пра беларускую мову.

Аднак цяпер парадаксальным чынам небяспека зыходзіць і ад самых гарачых яе прыхільнікаў.

Справа ў тым, што для гэтых людзей беларуская мова не ёсць і не магла быць матчынай. Цяперашнія Сержукі і Алесі не так даўно былі Серёжамі і Сашамі. Шлях кожнага да мовы быў свядомы, але цяжкі і пакутлівы.

Найлепей гэта апісана ў кнізе Сяргея Дубаўца “Гісторыя аднаго цуду”.

Што робіць нованавернуты? Ён пачынае “ўдасканальваць” рэлігію.

Гэтаксама і з мовай. “Нованавернутыя” беларусы не давяралі звыклым школьным падручнікам. Яны былі цвёрда перакананыя, што сапраўдную, “клясычную” мову ад іх схавалі бальшавікі, і вучыцца трэба паводле граматыкі стогадовай даўніны. Бо праўдзівая мова – гэта не сучасная, выпраўленая ў часы БССР, а т.зв. тарашкевіца.

Эпоха, у якую ўзнікла тарашкевіца, – часы станаўлення беларускай літаратурнай мовы. Яе можна і трэба параўноўваць з часамі Кантэміра і Ламаносава ў Расіі, Яна Каханоўскага ў Польшчы, Крысціёнаса Данелайціса ў Літве. Усе вышэйпамянёныя асобы, уключна з нашым Тарашкевічам, – першапраходцы, якія з цяжкасцю пракладвалі, пратапталі сцяжынкі ў нязведанае.

Магістралі збудуюць іншыя. Таму іх мова ніяк не магла быць дасканалай. Тарашкевіч рос і дзейнічаў, атачоны польскамоўнай атмасферай, – гэтая мова гучала ўсюды: у палацах і касцёлах, у школах і на вуліцы. Што ж дзіўнага, калі нават Купала першыя вершы пісаў па-польску. Таму для іх усе гэтыя “валізкі”, “філіжанкі” і “варункі” гучалі цалкам натуральна. Што там Купала – цяперашнія літоўцы з цяжкасцю разумеюць свайго Данелайціса, бо ягоная паэзія шчодра перасыпаная паланізмамі. А ўжо калі мовы блізкія… Звярніце ўвагу, як гавораць беларусы, што жывуць у расійскамоўным асяроддзі: яны самі не заўважаюць, што ўстаўляюць у гутарку бясконцыя “да”, “то есть”, кажуць “у АмерыКЕ”, “у вёсКЕ”, “з’явіЛся” (а адзін дзеяч увесь час казаў “Вось паеду ў АмерыЦУ”).

Праблему ўскладняе нізкі агульнакультурны ўзровень, няведанне замежных моў. І нашы “адраджэнцы” шчыра прымаюць чыста польскія словы і выразы за “очань біларускія”.

Памятаю, як мне адночы патэлефанаваў такі энтузіяст і ўзбуджана паведаміў: “Мы прыдумалі, як па-беларуску „бутэрброд!“ – І як?” – “Канапка!” Асабліва камічна, калі нават інтэлектуалы ўжываюць слова “выкшталцоны” ў сэнсе “изящный” (“выкшталцоныя ногі”) Між тым, wykształcony значыць “адукаваны”. “Адукаваныя ногі” – праўда няслаба!




Фота Настасі РОЎДЫ.

Трэба быць моўна глухім чалавекам, каб слых не рэзалі “райклюб”, “клясны кіраўнік” ды іншыя. А такія словы-монстры, як “кубэрта”, “сылюэт” проста крычма крычаць – “мы не вашы, мы чужыя!”

“Аднаклясьніца перад візытам у клюб „Ганалюлю“ спраўджвае кальготкі празь люпу”, – праўда хораша! Як жа па-беларуску! І цягнуць, і цягнуць “пальшчызну” ў нашу бедную мову.

Ужо ніхто не кажа “курыць” – толькі “паліць”. А мова не прымае, супраціўляецца, бо па-польску той, хто pali, – palacz. А па-беларуску – “паляч”, “палач”? Між тым спрадвеку на Беларусі былі “курцы”. “От накурылі, каб на вас шэрсць курэла!” – абуралiся жанкі.

Чаго толькі не навыдумляюць “моватворцы” хатняй гадоўлі! Часам цяжка зразумець, што ж хацеў сказаць ягамосць. Адзін ужываў выраз “апярэдзіў палічыць”.

І толькі з кантэксту можна было здагадацца што ён меў на ўвазе “предпочёл” – думае ж па-расійску! А “камандзёр”, “камандыр”, “вадаплаў”… “Шашаэзда” і “небалёта” пакуль няма.

А “трунак” замест півa, “лiквор” замест лікёру… І не падазраюць нават, што “ліквор” – гэта спіннамазгавая вадкасць, ласавацца якой могуць хіба што канібалы!

“Зупа” замест поліўкі ці проста супу. “Далікатны”, “ветлівы” – о не, некрасіва, трэба “гжэчны”! “Філосаф” – фу, які русізм! Трэба “філёзаЎ!” “Скрыначка” – што за дзеравеншчына! Трэба “пушка” або “пудэлка”…

І не “пляскаць”, а “кляскаць”! А яшчэ “бэльбэтавыя штроксы”! “Маціцовая ўсмешка”, “адслігаваныя ногі”. А “мюзыкал” і “тэатар”…

Гэтак у савецкім войску “дзембелі” ўпрыгожвалі сваю форму рознымі аксельбантамі, шнурочкамі, дроцікамі і зорачкамі, кожны на свой густ. Ніяк не магу даўмецца, адкуль узялася “БаЎгарыя”. Мо ўжо трэба казаць і “БаЎканы”? Гавораць жа адзін дзеяч на “Свабодзе” “каЎгас”!

А “Сырыя” – гэта ад слова “сыр”? “Сібір” – фу, как груба! Нада “СЫбір”!

Пацешыла нават суполка “Будзьма!” – на кампакт-дыску напісана, што там сярод іншага знаходзяцца “ПРЫШПІЛЬНЫЯ шпалеры”! Калі ачомаешся, даходзіць, што гэта “прикольные”.

І так вось беларуская мова ператвараецца ў пасмешышча, сваю ўласную пародыю – нешта накшталт інтэрнэтнага “олбанского”. І гэта ўсё не надае нашай мове папулярнасці.

Бяда не толькі з паланізмамі. Так, цяпер стала модна ўжываць “Летува” замест “Літва”: маўляў, сапраўдныя літвіны – гэта мы, а яны – “жмудзіны”. “Эрудыты” не падазраюць, што Літва – не толькі Жамойць, але і Дзукія, Аўкштайція, Сувалкія. Да таго ж не ведаюць, дзе правільна ставіць націск, і кажуць ЛетУва замест ЛетувА… А яшчэ “сапраўдныя патрыёты” ўжываюць словы “летувіс”, летувіска”. Не згадваючы немілагучны “віск”, трэба зазначыць, што “летувіска” – слоўны абсурд, аксюмаран. Бо ў літоўскай мове канчатак “ас”, “іс” абазначае мужчынскі род. Жаночы, адпаведна, – “а”, “е”. Літоўка будзе “летуве” (lietuve). “Летувіска” мае абодва канчаткі – гермафрадыт, ці што? Адначасова і мужчына, і жанчына?

У любой жывой мове адбываецца несупынны працэс эвалюцыі, развіцця.

Абсурдам было б лічыць, што ў БССР мову толькі псавалі, а сапраўдная захавалася толькі на эміграцыі, якая ніколі не адмаўлялася ад “тарашкевіцы”. Абноўленыя правапіс не перашкодзіў Караткевічу, Быкаву, Барадуліну, Разанаву стварыць выдатныя творы, роўных якім дарэмна шукаць сярод эміграцкай літаратуры. Як нельга двойчы ўвайсці ў адну раку, немагчыма стагоддзямі заставацца ў той самай плыні.

Нельга ў наш час пісаць моваю Я. Станкевіча, пры ўсёй павазе да ягонай дзейнасці. “Нацыянальна ўсьвeдаміўшыся ў 1909 г., я пачаў усюдых запісаваць словы беларускія… Вызукоўчы мову беларускую…” – і г. д. Той, хто цяпер “вызукае” беларускую мову, жыве ў іншую эпоху з іншымі патрабаваннямі.

Немагчыма ўявіць сабе артыкул пра Вялікі адронны калайдар, дзе б ужываліся словы “тутака”, тамака”, “гэны”, “хворма”.

Але не ўсё так безнадзейна. Вось, скажам, чытаеш найноўшую кнігу Алеся Бяляцкага – нічога не рэжа і не драпае ані слыху, ані вока.

Можам, калі захочам! Нават у нялюдскіх абставінах, за кратамі…

На вялікі жаль, нельга з упэўненасцю сказаць, што беларуская мова не знікне ніколі.

Дакладна толькі тое, што кожны з нас павінен зрабіць усё, каб яна жыла. А жыць – значыць глядзець не назад, а наперад, дасканаліцца і развівацца.

**Даведка “РГ”. Алег Аблажэй** – мастак, публіцыст, жыве ў Вільні.

**Алег Аблажэй, Вільня.**
**Газета “Наша слова”.**

ЗАХАПЛЕННІ

# Удзельнік моладзевага руху “Street workout”: “Інтэрнэт прывіў цікавасць да спорту”

**ВІЛЕЙКА. 7 ліпеня моладзевы рух “Street workout” на пляцоўцы вілейскай гімназіі №2 сабраў людзей, якія выступаюць за здаровы лад жыцця. Прыехалі таксама каманды з Маладзечна і Смаргоні.**

Пра мерапрыемства расказаў удзельнік **Сяргей Шут**, навучэнец вілейскага прафесійна-тэхнічнага каледжа. Ён заняў трэцяе месца ў намінацыі “падцягванне на турніку”.

**– Сяргей, якое месца займае спорт у тваім жыцці?**

– Гэта і ёсць жыццё. І калі нехта кажа, што захапленне спортам ненадоўга, магу з упэўненасцю сказаць: гэта не так. За пяць гадоў у “Street workout” назбіралася больш за 300 тысяч чалавек з Беларусі, Расіі, Украіны і Амерыкі. Але думаю, што гэта толькі пачатак. Усё наперадзе.

**– Як адносяцца бацькі да заняткаў спортам?**

– Вядома, ганарацца. Любых бацькоў парадуе, што дзеці знайшлі інтарэс па душы, тым больш карысны.

**– Адкуль такі інтарэс да “Street workout”? І ўвогуле, што гэта такое?**

– Калі я і мае сябры былі крыху меншыя, глядзелі спаборніцтвы ў Інтэрнэце, аднойчы наткнуліся на відэа “Street workout”. Вось і вырашылі далучыцца. “Street workout” у перакладзе з англійскай мовы азначае вулічную трэніроўку. Гэта моладзевы тур, прысвечаны здароваму ладу жыцця. Цягам трох месяцаў каманда спартсменаў-воркаўтэраў наведвае розныя гарады, у якіх ладзіць спартыўныя мерапрыемствы. У іх могуць удзельнічаць усе ахвотныя.

**– Як рыхтаваліся да спаборніцтва?**

– Кожны вечар мы збіраліся на спартыўнай пляцоўцы, паказвалі адзін аднаму штосьці новае, некаторых вучылі рабіць, чаго яны не ўмелі.

**– Вашай мэтай была перамога ці проста ўдзел?**

– Мы выступалі проста як удзельнікі. Жадалі паказаць прыклад маладым хлопцам і дзяўчатам. Імкнуліся даказаць, што заняткі спортам не толькі карысныя для здароўя, але і модныя. Гэта лепш, чым курыць і піць.

**– Якія адчуванні ад удзелу ў “Street workout”?**

– Выступаць прыемна, калі ёсць падтрымка. Нас падтрымлівалі вельмі добра: дзяўчаты напісалі плакаты, прыдумалі крычалкі. Бацькі прывялі сваіх дзяцей, якія імкнуліся паказаць, што могуць яны, і паўтараць за спартсменамі іх прыёмы. Гэта яшчэ раз даказвае, што “Workout” выхоўвае моладзь.

**– Якія ж вашы далейшыя планы?**

– Паехаць 28 ліпеня на галоўныя спаборніцтвы ў Мінск.

Нам застаецца пажадаць удзельнікам “STREET WORKOUT” Вілейкі новых дасягненняў, перамогі на спаборніцтвах у Вілейцы, і тым самым парадаваць свой горад.

**Галіна СІНІЦА.**

ФУТБОЛ. ДРУГАЯ ЛІГА

# Перамаглі пасля пяці паражэнняў

**МАЛАДЗЕЧНА. Мясцовы клуб парадаваў аматараў футбола доўгачаканай перамогай з лікам 2:1. Гульня прайшла на дамашнім стадыёне ў нядзелю, 7 ліпеня.**



Юры Марціновіч стаў аўтарам абодвух галоў у выкананні “Маладзечна-2013”.

Фота Вольгі ЮРКЕВІЧ.

Трыбуны стадыёна напаўняліся цягам усёй гульні. У другім тайме футбол сабраў больш за сотню гледачоў.

Маладзечанцы вырваліся наперад ужо ў першым тайме. Абодва галы ў вароты “Віцебска” забіў **Юры Марціновіч**.

Сапернікі пачалі больш актыўна атакаваць на пачатку другога тайма. Адна з атак скончылася паспяхова – віцябчане здолелі скараціць адставанне ў ліку. Але зраўняць лічбы на табло не атрымалася.

**Маладзечанская каманда паклала ў сваю скарбонку яшчэ тры ачкі.**

Цяпер яна займае адзінаццаты радок турнірнай табліцы, маючы чатыры ачкі пасля васьмі матчаў.

Для карэспандэнтаў “РГ” гульню пракаментаваў галоўны трэнер каманды “Маладзечна-2013” **Дзяніс Мятліцкі**:

– У першую чаргу радуе тое, што мы набралі тры ачкі. І ўрэшце змаглі парадаваць прыхільнікаў футбола. Гульня была складанай, пра гэта я папярэджваў футбалістаў загадзя: з “Віцебскам” мы прыкладна на адным узроўні, бо і ў нас, і ў іх гуляе моладзь. У другім тайме паправіў дадаць актыўнасці, але не атрымалася.

**– Гульнёй вы задаволеныя?**

– Вынікам задаволены, а гульнёй... Ведаеце, ёсць такая прымаўка: гульня забываецца, а вынік застаецца. Самым галоўным цяпер была перамога пасля пяці паражэнняў. І мы яе атрымалі.

**– Сёння абодва галы на рахунку аднаго футбаліста...**

– Дарэчы, учора Юры Марціновіч гуляў за другую каманду, якая выступае на першынстве вобласці. І таксама адзначыўся двума галамі.

**– Пасля некалькіх паражэнняў запар не ўсе прыхільнікі маладзечанскага футбола працягваюць верыць у вашу каманду. Можа, праз газету хочаце звярнуцца да іх?**

– Ведаеце, мы будзем вяртаць іх веру ў каманду не праз словы, а праз дзеянні. Будзем перамагаць, і людзі зноў павернуцца да нас.

**– На футбольных форумах ужо з’явіліся выказванні кшталту “толькі самыя кепскія каманды новае “Маладзечна” і можа перамагаць” (“Віцебск-2” пакуль што займае апошняе месца ў Другой лізе. – Аўт.). Што на іх адкажаце?**

– Перамога – гэта ў любым выпадку перамога. А нейкая каманда мусіць быць апошняй. Сёння гэта “Віцебск”, заўтра можа быць іншая. Для нас важней не імя саперніка, а набраныя ачкі.

**– Цягам некалькіх тыдняў, калі ў каманды ішла паласа паражэнняў, вы не адказвалі на пытанні прэсы. Як цяпер пракаментуеце тыя паражэнні?**

– Цяпер няма сэнсу шукаць апраўданняў. Але, як мы і казалі раней, у нас апошнім часам хапае кадравых праблем.

**– Што далей будзе з саставам каманды?**

– Спадзяёмся, што асноўныя футбалісты хутка вернуцца на поле. **Андрэй Шаблінскі** папраўляе здароўе пасля траўмы. Да выязнога матча, які пройдзе ў Асіповічах, ён мусіць далучыцца да каманды. **Віталь Макрыцкі** паехаў на заробкі, праз месяц ён абяцаў вярнуцца.

**– Ці з’явяцца ў камандзе новыя гульцы?**

– Мы маем права заяўляць новых футбалістаў у пачатку другога круга. Ужо цяпер з намі трэніруюцца маладыя спартсмены, якіх мы пасля зможам узяць у каманду.

**– Яны маладзечанцы?**

– Не, на жаль, маладзечанскія гульцы так і не праявілі ініцыятывы да нашага клуба.

**– На якім аўтобусе ездзіце на выезды?**

– Транспарт арандуем самі. Мы адзіная каманда ў Беларусі, якая робіць гэта самастойна. Прыбыткі, які атрымліваем ад продажу білетаў на дамашнія матчы, таксама ідзе на аплату аўтобуса.

**Аляксандра ПАРАХНЯ.**

**Турнірная табліца:**

| | Каманды | Г | В | Н | П | М | А |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1. | Гомельчыгунтранс | 8 | 8 | 0 | 0 | 22-3 | 24 |
| 2. | Нёман (Масты) | 9 | 6 | 3 | 0 | 21-7 | 21 |
| 3. | Зорка-БДУ (Мінск) | 9 | 4 | 4 | 1 | 14-7 | 16 |
| 4. | Жлобін | 8 | 4 | 1 | 3 | 14-12 | 13 |
| 5. | Кобрын | 8 | 4 | 1 | 3 | 14-15 | 13 |
| 6. | Орша | 9 | 3 | 3 | 3 | 16-9 | 12 |
| 7. | Лівадзія (Дзяржынск) | 8 | 2 | 4 | 2 | 10-8 | 10 |
| 8. | Баранавічы | 7 | 2 | 3 | 2 | 12-12 | 9 |
| 9. | Асіповічы | 8 | 2 | 3 | 3 | 6-10 | 9 |
| 10. | АЛФ-2007 (Мінск) | 8 | 1 | 3 | 4 | 8-14 | 6 |
| **11.** | **Маладзечна-2013** | **8** | **1** | **1** | **6** | **11-23** | **4** |
| 12. | Партызан-МТЗ (Мінск) | 8 | 0 | 4 | 4 | 4-13 | 4 |
| 13. | Віцебск-2 | 8 | 0 | 2 | 6 | 4-23 | 2 |

ВЕЛАПРАБЕГ

## Турклуб “Пілігрым” запрашае ў велавандроўку

**МАЛАДЗЕЧНА. Чарговае падарожжа чакае аматараў роварнага адпачынку.**

Турклуб “Пілігрым” арганізуе вандроўку першай катэгорыі складанасці. Яна пройдзе з 12 па 18 жніўня па тэрыторыі Мінскай і Віцебскай абласцей. Раварысты стартуюць у Маладзечне, а іх далейшы маршрут пройдзе праз Заброддзе, Блакітныя азёры, Камаі, Паставы і Крулеўшчыну.

Магчыма, у вандроўнікаў атрымаецца паслухаць і ўнікальны арган у касцёле ў Камаях.

Начоўкі будуць праходзіць у палатках, якімі забяспечыць турклуб.

У вандроўку запрашаюцца і падлеткі, і бацькі з дзецьмі, і ўсе тыя, хто мае ровар з багажнікам.

Звяртацца па тэлефоне **8-029 508-69-67**. ***Сяргей Бялкоў.***

**Турклуб “Пілігрым”.**



Без велападарожжаў многія ўжо не могуць уявіць сабе летняга адпачынку.

Фота забяспечана Сяргеем БЯЛКОВЫМ.

НАВІНЫ

### “Вілія” атрымала першую перамогу

**ВІЛЕЙКА.** У восьмым туры чэмпіянату Мінскай вобласці па футболе 3 ліпеня вілейская “Вілія” ў гасцях буйна прайграла аднаму з лідараў чэмпіянату “Жодзіна-2007” – 0:5.

А ў дзявятым туры вiляйчане нарэшце атрымалі першую перамогу ў чэмпіянаце. Дома 7 ліпеня яны перамаглі з лікам 4:3 каманду “Колас” (Чэрвеньскі раён). Перамога дазволіла “Віліі” пакінуць апошняе месца, цяпер каманда з Вілейкі ідзе трынаццатай.

### Валейбольны турнір у Дзень Незалежнасці

**МЯДЗЕЛ.** У фізкультурна-аздараўленчым цэнтры 3 ліпеня прайшоў валейбольны турнір, прысвечаны Дню Незалежнасці Рэспублікі Беларусь.

У ім удзельнічалі чатыры каманды. Тры з іх з Мядзельшчыны: райаддзела на надзвычайных сітуацыях, Крывічоў, “Нептун” (Мядзел), а адна – з Вілейкі.

– Турнір праходзіў па кругавой сістэме, – паведаміў дырэктар Мядзельскага фізкультурна-аздараўленчага цэнтра **Міхаіл Чаркасаў**. – Перамагла каманда райаддзела на надзвычайных сітуацыях, на другім месцы – каманда Вілейкі, на трэцім – “Нептун”.

### Турысты збяруцца на беразе вадасховішча

**ВІЛЕЙКА.** Раённы турыстычны злёт працоўнай моладзі памяці **Віталя Кастэнкі** пройдзе з 12 па 14 ліпеня. Адбудзецца ён на беразе Вілейскага вадасховішча (Чыжэвіцкая затока).

Прымуць у ім удзел каманды арганізацый і прадпрыемстваў Вілейскага раёна. Пакуль заяўкі падалі шэсць каманд.

Турысты будуць спаборнічаць у начным арыентаванні, веславанні на каноэ, дартсе, перацягванні каната, пераадольванні турыстычнай паласы. Адбудуцца конкурсы турысцкай песні і быту.

### Маладзёжны фестываль прайшоў у Вілейцы

**ВІЛЕЙКА.** У нядзелю, 7 ліпеня, на стадыёне вілейскай гімназіі №2 адбыўся крэатыўны маладзевы фестываль “Coca-Cola Street Workout Challenge”.

У ім прынялі ўдзел дзве каманды з Вілейкі і Смаргоні, паведаміла галоўны спецыяліст аддзела ідэалагічнай работы, культуры і па справах моладзі **Вераніка Гайчук**.

У складзе камандаў была моладзь розных узростаў. Праходзілі спаборніцтвы ў падцягванні на турніках з падвешаным гіраў, адцісканнях на брусах і іншых відах.

Уладальнікі першых месцаў у розных намінацыях запрошаныя на абласны конкурс Workout, які адбудзецца ў Мінску.

### “ДЮСШ-4” выйграе ў гасцях і прайграе дома

**МАЛАДЗЕЧНА.** Восьмы тур чэмпіянату Мінскай вобласці па футболе прайшоў 3 ліпеня. Каманда “Маладзечна-ДЮСШ-4” у гасцях перайграла “Лівадзію-Юні” (Дзяржынскі раён) 3:2. Матч “Забудова-2007” (Чысць) – “Старыя Дарогі” перанеслі.

У рамках дзявятага тура 6 ліпеня “Забудова-2007” прайграла лідару чэмпіянату – “Нёман-Агра” (Стаўбцоўскі раён) з лікам 3:4. Каманда з Чысці апусцілася на апошняе, 14-е месца. “Маладзечна-ДЮСШ-4” дома сустракалася з “Жодзіна-2007”. Калі б маладзечанцы перамаглі, то падняліся б на другое месца ў турнірнай табліцы. Аднак яны прайгралі з лікам 1:2 і засталіся трэцімі.

### Смаргонскія футбалісты выйгралі 3:0

**СМАРГОНЬ.** Футбольны клуб “Смаргонь” 6 ліпеня на дамашнім стадыёне правёў матч 12 тура чэмпіянату Беларусі па футболе ў першай лізе. Смаргонцы выйгралі з лікам 3:0 у каманды “Граніт” з Мікашэвічаў. Два галы забіў **Сяргей Крот** (на 1-й і 62-й хвілінах), адзін – **Віталь Шапятоўскі** (на 69 хвіліне), паведамляе goals.by. У турнірнай табліцы “Смаргонь” займае восьмае месца з шаснаццаці камандаў.

**Аддзел інфармацыі.**

ЗАХАПЛЕННЕ

# “Я ніколі не хаджу ў аптэку – усё неабходнае расце на маім агародзе”

**ВІЛЕЙКА. На агародзе ў Івана Капцюга, жыхара мястэчка Ілья, не растуць памідоры і агуркі, як звычайна ў людзей, а растуць травы.**

Вырошчваць травы – гэта ў Івана Рыгоравіча своеасаблівае хобі. І травы не простыя, а гаючыя.

Івану Капцюгу 81 год, жыве адзін, а агарод у яго дагледжаны. Ніводнай лішняй травінкі няма. Я вам скажу, такі агарод не ў кожнай жанчыны будзе. Але, акрамя траў, растуць і аксаміткі.

Калі дзядзька Іван пазаў мне свой агарод, ён сказаў: “Мой агарод – мая аптэка. Я ніколі не хаджу ў аптэку. Усё самае неабходнае расце на маім агародзе”.

І сапраўды, на агародзе вельмі шмат траў. Расце божае дрэва – гэта адзін з відаў палыну.

– Яно лечыць ад бранхіяльнай астмы, – кажа Іван Капцюг. – А таксама ад зубнога болю і моцнага галаўнога.

Іван Капцюг вельмі даражыць такой раслінай, як амарант.

– А гэта мой амаранцік, мая самая дастойная расліна, – кажа спадар Іван. – Ён змяшчае ў сабе шмат бялку. Яшчэ гэтую расліну называюць несмяротнай.

Па словах гаспадара, амарант вырастае да двух метраў у вышыню. Саджае яго ў красавіку ці ў маі, калі зямля ўжо дастаткова прагрэецца, бо расліна баіцца замаразкаў.

– Амарант упрыгожвае мой агарод, працягвае Іван Рыгоравіч. – Цвіце паўметровымі гронкамі пурпурна-ружовага колеру бесперапынна ўсё лета, да самых замаразкаў.

Смажанае насенне расліны мае смак толькі што сабранага ляснога арэха. З яго можна варыць кашу і не класці масла, бо расліна сама па сабе атрымліваецца вельмі духмянай і тлустай. Яшчэ гэта насенне можна дадаваць у суп і салату.


Фота Вольгі ЮРКЕВІЧ.

Іван Капцюг з мястэчка Ілья мае хобі – на сваім агародзе вырошчвае гаючыя травы.

### “Тэлефанаваў мужчына і надта прасіў, каб я яму выслаў нарычніку”

– Патэлефанаваў мне неяк мужчына і запытаў: “А ці ёсць у вас нарычнік?” Я яму кажу, што толькі для сябе настойку зрабіў – няма. І мужчына яшчэ больш пачаў прасіць. Я кажу, у мяне толькі трошкі засталося. Але ён так слёзна прасіў, што гэту каплю я яму і выслаў.

Праходзіць час. Зноў тэлефануе гэты мужчына і кажа: “Мне дапамагло, дзякуй вам! Калі будзе час, то абавязкова сам да вас заеду”.

### “Мурашкі – мае лепшыя сябры”

– Я вельмі паважаю мурашак, – кажа дзядзька Іван. – Яны мае выратавальнікі. Калі мне было гадоў сем, у мяне вельмі балела нага. А яшчэ пачалася вайна. Мой тата мяне спытаў: “Прызнавайся, што з нагой?”. Я кажу, не ведаю. Тады ён загадаў маме і мне збірацца ў лес. Пайшлі мы ўсе разам і назбіралі мурашак. Калі прыйшлі дадому, бацькі намазалі мне нагу нечым тлустым і наверх наклалі мурашак. І вось з таго часу прайшло больш за 70 гадоў. І такога ніколі не паўтарылася.

Цяпер, калі дзядзька Іван прыходзіць у лес, ён заўсёды размаўляе з мурашкамі. Яны назаўжды засталіся яго сябрамі.

### Іншыя цуды на агародзе...

Акрамя гэтых раслін, на агародзе ў спадара Івана расце балігалоў, герань. Да таго ж на агародзе расце фігалісны гарбуз. Насенне Івану Капцюгу прыслалі з Чэхіі.

Па словах гаспадара, з аднаго гарбуза вырастае больш за 20 пладоў. Ён беленькі з далікатнай і прыемнай салодкай мякаццю. Можна есці і ў сырым выглядзе, як дыню. Мне нават пашчасціла яго пакаштаваць.


Вольга ЮРКЕВІЧ
olga920420@gmail.com

ГАРАСКОП (12-18 ЛІПЕНЯ)


**Авен.** Вы паклапоціцеся аб тым, каб палепшыць жыццё сваіх блізкіх, зоймецеся вырашэннем бытавых пытанняў. Магчымы рамонт, набыццё рэчаў, якія ўпрыгожваюць быт.


**Цялец.** Вас чакаюць перамены. Сярод усіх змяненняў трэба выдзеліць тыя, якія змогуць прывесці вас да поспеху, і адсячы тыя, якія не нясуць ні карысці, ні радасці.


**Блізняты.** Гэта перыяд поўнага бязмежнага шчасця для вас.


**Рак.** Вам спатрэбіцца нямала пяшчоты і цярпення, уменя зразумець блізкага чалавека. Адзінокіх чакае сустрэча. Вось толькі працягваць адносіны, у якіх іскра не праскочыла ў першыя хвіліны знаёмства, бессэнсоўна, яны ўсё роўна не прывядуць ні да чаго.


**Леў.** Пастарайцеся пазбегнуць перамамлення, забяспечце сабе максімум магчымасцей для паўнацэннага адпачынку. Пагрузіцеся ва ўспаміны, прааналізуйце сваё мінулае, дайце ацэнку ўчынкам.


**Дзева.** Не рабіце нічога такога, аб чым пасля прыйдзецца шкадаваць. І не сячыце канцы, каб не апынуцца ў залежным становішчы ад іншых людзей і іх рашэнняў.


**Шалі.** Памятайце старую прыкмету, што сабака прыходзіць у дом да поспеху ў кар'еры, а кошка прыносіць з сабой любоў. Можа, вы і не хочаце заводзіць дома ніякай жывёлы, але ўсё ж задумайцеся.


**Скарпіён.** Прывесці да ўскладненняў могуць агрэсіўнасць і неабдуманa дадзеныя абяцанні.


**Стралец.** Зоркі настолькі добрыя да вас, што вам застаецца толькі працаваць. Вас чакаюць не толькі поспехі, але і прывілеі.


**Казярог.** Вас чакае доўгачаканы спакой і стабільнасць ва ўласным жыцці.


**Вадалей.** Магчыма, адбудзецца нешта такое, што спрыяльна паўплывае на сітуацыю ў асабістым жыцці.


**Рыбы.** Вас чакае ашаламляльны раман, які, магчыма, прывядзе да вяселля. Можаце сутыкнуцца і з праявамі неабгрунтаванай рэўнасці з боку партнёра. Пастарайцеся не даць падставы ўсумніцца ў вашых пачуццях. А калі з каханым вы чэсныя, то і маніпуляваць вамі не дазваляйце.

**Марыя УРБАНОВІЧ.**

СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | 1 | 8 | | 6 | 5 | 9 |
| | | | | | 7 | | | |
| 9 | | | 4 | | | 2 | 1 | |
| | 5 | | | | 6 | 9 | | |
| 1 | | 6 | | 4 | | 8 | | 2 |
| | | 4 | 7 | | | | 6 | |
| | 2 | 5 | | | 4 | | | 3 |
| | | | 6 | | | | | |
| 7 | 4 | 9 | | 2 | 1 | | | |

Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3х3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 4 | 7 | 3 | 1 | 8 | 2 | 6 | 5 | 9 |
| 5 | 1 | 2 | 9 | 6 | 7 | 4 | 3 | 8 |
| 9 | 6 | 8 | 4 | 5 | 3 | 2 | 1 | 7 |
| 8 | 5 | 7 | 2 | 3 | 6 | 9 | 4 | 1 |
| 1 | 3 | 6 | 5 | 4 | 9 | 8 | 7 | 2 |
| 2 | 9 | 4 | 7 | 1 | 8 | 3 | 6 | 5 |
| 6 | 2 | 5 | 8 | 7 | 4 | 1 | 9 | 3 |
| 3 | 8 | 1 | 6 | 9 | 5 | 7 | 2 | 4 |
| 7 | 4 | 9 | 3 | 2 | 1 | 5 | 8 | 6 |

РЭПЕРТУАР

## Кінатэатр “Радзіма”, Маладзечна

*ВЯЛІКАЯ ЗАЛА*

Анімацыя, фэнтэзі **“Эпік”** (ЗША, 2013, без узроставых абмежаванняў)
12 ліпеня – у 16.00
13 ліпеня – у 13.00
14 ліпеня – у 13.00
15 ліпеня – у 19.00
17 ліпеня – у 16.00
18 ліпеня – у 19.00
Кошт білета – 22 000-25 000

Экшн **“Чалавек са сталі”** 3D (ЗША, 2013, да 14 гадоў прагляд дазволены ў суправаджэнні бацькоў ці педагога)
12 ліпеня – у 18.00
13 ліпеня – у 18.00
14 ліпеня – у 21.00
16 ліпеня – у 18.00
17 ліпеня– у 21.00
18 ліпеня – у 16.00
Кошт білета – 35 000-40 000

Фантастычны экшн **“Ціхаакіянскі рубеж”** 3D (ЗША, 2013, 2 серыі, для гледачоў, якім за 16 год)
12 ліпеня – у 21.00
13 ліпеня – у 15.00, 21.00
14 ліпеня– у 15.00. 18.00
15 ліпеня – у 21.00
16 ліпеня – у 21.00
17 ліпеня – у 18.00
18 ліпеня – у 21.00
Кошт білета – 40 000-45 000

*ЗАЛА ПАВЫШАНАЙ КАМФОРТНАСЦІ*

Сямейны фільм, прыгоды **“Тэд Джонс і згублены горад”** (Іспанія, 2012)
12 ліпеня – у 17.00
13 ліпеня – у 15.30
14 ліпеня – у 15.30
16 ліпеня – у 17.30
18 ліпеня – у 17.30
Кошт білета – 15 000

Анімацыя, фэнтэзі, камедыя **“Як прыручыць зомбі”** (Іспанія, 2012)
13 ліпеня – у 17.00
14 ліпеня – у 17.00
Кошт білета – 15 000

Баявік, трылер “Тачка **№** 19” (ЗША, ПАР, 2013)
12 ліпеня – у 21.30
15 ліпеня – у 21.30
16 ліпеня – у 19.30, 21.30
18 ліпеня – у 19.30, 21.30
Кошт білета – 25 000

Фантастыка, прыгоды **“Галодныя гульні”** (ЗША, 2012)
12 ліпеня – у 19.00
14 ліпеня – у 19.00
Кошт білета – 35 000

Тэл. для даведак: **8(0176) 77-15-92, 77-06-30.**

ISSN 1991-7155
9 771991 715006

**Камент-эксперт**
erh.by
Выкажы сваё меркаванне пра газету ці пра асобны артыкул, паслаўшы SMS-паведамленне на нумар **+375 (29) 67-68-420,** на e-mail **regionnews@rh.by** або пакінь каментар на **rh.by**

РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА

## НАДВОР'Е

| | Пятніца | | Субота | | Нядзеля | | Панядзелак | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мінск | +17 +25 | | +19 +21 | | +15 +23 | | +15 +21 | |
| | 738 | ← 4 | 738 | ↖ 3 | 735 | ↑ 4 | 736 | → 3 |
| Вільня | +17 +20 | | +17 +21 | | +17 +21 | | +16 +18 | |
| | 748 | ↙ 5 | 746 | ↙ 6 | 744 | ↓ 4 | 746 | ↙ 4 |

| Тэмпература паветра | Воблачнасць ападкі | Усход, захад па Маладзечне |
|---|---|---|
| Ціск (мм рт. сл.) | Хуткасць ветра м/с | |

Усход 4.56
Захад 21.40
Даўжыня дня 16.44

Усход 10.50
Захад 23.10
Квадра 2

**13 ліпеня, субота**

Віцебск +18 +24, 745 ← 3
Гродна +15 +22, 745 ← 2
Мінск +19 +21, 738 ↖ 3
Магілёў +17 +24, 743 ↖ 2
Гомель +22 +25, 746 ↑ 2
Брэст +12 +22, 744 ↑ 3

## ПРЫКМЕТЫ

- 12 ліпеня. Пятра – дзень апосталаў Пятра і Паўла. "Прыйшоў Пятрок – адпаў лісток". Салавей і зязюля пяюць да Пятра.
- Мноства ягад летам прадвяшчае халодную зіму.

# Чытайце праз тыдзень:

- **Як беларуская старажытная кухня дапамагае зэканоміць сямейны бюджэт? Якія стравы маглі стаяць на вяселлі ў Вітаўта? Якія папулярны цяпер ласунак дайшоў да нас з паганскіх часоў?**







## АДЗІН МОМАНТ З ЖЫЦЦЯ АШМЯН


Фота Юрыя ГОРВАДА.

"Маладая маці" прагульваецца з маленькімі да-чушкамі.

## МІМАХОДЗЬ

Не бойцеся пасмяяцца з сябе – самакрытыка гэтак жа неабходная, як неабходна ўмывацца.

***

Чалавек есць хлеб траякі: белы, чорны і ніякі.







## ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ Ў ІЛЫ

# Як бы вы распарадзіліся раённым бюджэтам?



**Паліна Дубовік, студэнтка юрфака БДУ:**

– Я выдаткавала б больш грошай школам, каб яны змаглі набыць спортінвентар, праводзіць семінары, факультатывы. Тады ў нас будзе менш небяспечных людзей на вуліцах. Дала б магчымасць адкрыць начныя клубы для тых, хто сапраўды прыходзіць адпачыць, завесці новыя знаёмствы.



**Алена Траццяк, сацработнік:**

– Канешне ж, дарогі! У цэнтры яны добрыя, а на іншых вуліцах не вельмі. Таксама павялічыла б колькасць дзіцячых садкоў.



**Ніна Кавалевіч, санітарка:**

– Абавязкова зрабіла б дарогі, асабліва ў Залінейным раёне. Я, дарэчы, там жыву. Яны разбітыя не толькі легкавымі аўтамабілямі, але і грузавікамі. Таксама б прывяла добраўпарадкаванне двароў.



**Вячаслаў Стасюлевіч, агент:**

– У першую чаргу трэба звярнуць увагу на дарогі, тыя, якія ў жахлівым стане. Таксама на капітальны рамонт жыллёвага фонду. Многія расказваюць пра тое, што грошы здаюць на добраўпарадкаванне, а справа стаіць на месцы. Хочацца вынікаў, годных умоў жыцця.



**Святлана Куляшова, медыцынская сястра:**

– Хацелася б больш цікавых, вясёлых атракцыёнаў для дзяцей, гульнявых пляцовак. Дзеці – гэта лепшае, што ў нас ёсць, таму мы павінны зрабіць так, каб яны мелі шчаслівае дзяцінства, выраслі годнымі людзьмі. Для моладзі хацелася б больш начных клубаў, каб добра правесці час.



**Віктар Ізотаў, пячнік:**

– Я даў бы грошы на дахі. Да "Дажынак" іх рабілі, аднак шыфер тонкі, узнікаюць праблемы. Не падабаецца тое, што на гарышчах вельмі шмат смецця. Трэба рабіць наш горад чысцейшым, толькі тады ён будзе прыгажэць.



**Андрэй Гузееў, муляр:**

– Трэба добраўпарадкаваць двары. Наш горад прыгожы, я ганаруся ім. Мне не сорамна паказаць яго гасцям. А яшчэ зрабіць дарогі на некаторых вуліцах. Больш спартыўных пляцовак. У маю маладосць дзеці больш часу бавілі на вуліцах, цяпер – за камп'ютарам. Гэта дрэнна для іх здароўя.

**Падрыхтавала Галіна СІНІЦА.**

Рэгіянальная газета. Выходзіць па пятніцах. Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2. Тыраж 6200 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска). Падпіска праводзіцца пастаянна ў паштовых аддзяленнях.
У розніцу – цана свабодная.
№ 28 (950) 12.07.2013.
Друкарня ТДА "Знамение", г. Мінск, вул. Каржанеўскага, 14.
Ліц. на права ажыццяўлення друкарскай дзейнасці №02330 /0150475 от 25.02.2009 г. Зак. 617. Падпісана ў друк у 10.00 11.07.2013.

Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.
Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Адрас рэдакцыі: 222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 68а.
Тэлефоны/факс: (0176) 769667, 747100, 753841 (рэклама).
E mail: regionnews@rh.by http://rh.by
Разліковы рахунак №3012164030004 у ААТ "Банк БелВЭБ" аддзяленне ў Маладзечне, код 226, атрымальнік ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета", УНН 600288444.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі РБ.